Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 15 (4713) 12 красавіка 2013 г.

## Пункцірам

✔ Зварот Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі са штогадовым Пасланнем беларускаму народу і Нацыянальнаму сходу запланаваны на 19 красавіка.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў і чытачоў газеты «Знамя юности» з 75-годдзем выдання. «Няхай свет, які з вашай дапамогай пазнае юная аўдыторыя, будзе заўсёды напоўнены сапраўднымі, а не ўяўнымі жыццёвымі каштоўнасцямі», — пажадаў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Дні культуры Санкт-Пецярбурга пройдуць у Беларусі з 15 па 19 красавіка. У праграме — канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага рускага аркестра імя Андрэева, выстаўкі, спектакль «Доктар філасофіі» Санкт-Пецярбургскага акадэмічнага тэатра камедыі імя Акімава і іншыя мерапрыемствы.

✔ На сцэне аднаго з вялікіх тэатраў Сіцыліі — Масіма Беліні — упершыню выступіць трупа Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. Увазе італьянцаў прапанаваны спектакль «Жызель, альбо Віlісы» Адольфа Адана ў пастаноўцы народнага артыста СССР Мікіты Далгушына. Усяго ў турнэ, якое доўжыцца з 8 па 15 красавіка, прадугледжана сем паказаў.

✔ Рэспубліканскі фестываль мастацкай творчасці навучэнскай і студэнцкай моладзі «АРТ-вакацыі» стартаваў 6 красавіка. На канцэртных пляцоўках у Мінску, Брэсце, Гомелі, Магілёве, Віцебску, Салігорску і Лідзе маладыя людзі прадстаўляюць нумары па інструментальным, вакальна-харавым, фальклорна-этнаграфічным, харэаграфічным, тэатральным і іншых напрамках. А ў маі лепшыя калектывы і выканаўцы выступяць на гала-канцэрце, які адбудзецца ў Магілёве.

✔ VIII Міжнародны фестываль юных талентаў «Зямля пад белымі крыламі» пройдзе ў Мазыры 22 — 27 красавіка. Форум збярэ больш як 600 удзельнікаў з 11 краін, у тым ліку Расіі, Эстоніі, Украіны, Сербіі, Малдовы, Румыніі, Азербайджана, Казахстана. Беларусь прадставяць творчыя калектывы з усіх рэгіёнаў краіны. Замежныя творчыя калектывы і выканаўцы пабываюць з выязнымі канцэртамі ў аграгарадках Мазырскага раёна.

✔ Беларуская карціна «Гульні паралельных светаў або наш адказ Амстэрдаму», прысвечаная першай Усесаюзнай спартакіядзе 1928 года, заваявала Гран-пры XI Міжнароднага фестывалю спартыўнага кіно «Красногорскі». Усяго ў конкурснай праграме было прадстаўлена 122 фільмы.

✔ Учора ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрылася выстаўка «Паліфанія», на якой прадстаўлены работы выкладчыкаў Мінскага дзяржаўнага мастацкага каледжа імя А. Глебава. У экспазіцыі — творы жывапісу, графікі і скульптуры.

Падрыхтавала
**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**



8 Аляксандр Казінцаў: «Раўняюся на Алеся Савіцкага»



13 Балет на раялі. Рэпартаж з Філармоніі



14 А што яшчэ можна рабіць у бібліятэцы?..



*Фота Кастуся Дробава*

*Міхась Мушынскі і Вячаслаў Рагойша абмяркоўваюць каталог фотаздымкаў Янкі Купалы «Ты гэтых вачэй не забудзь...».*

**Нататкі з прэзентацыі чытайце на стар. 2.** ▸

## Пытанне да творцы

# Што з беларускай літаратуры вы прапанавалі б для экранізацыі?



**Уладзімір Мішчанчук, акцёр, вядучы майстар сцэны Тэатра-студыі кінаакцёра пры кінастудыі «Беларусьфільм»:**

— Мне здаецца, што кінематаграфістамі яшчэ не да канца ацэнены Уладзімір Караткевіч. Можна смела брацца за любы яго неэкранізаваны твор. Вось цяпер, напрыклад, мне згадаўся «Паром на бурнай рацэ», які для кінематаграфістаў — проста скарбніца. Вартыя экранізацыі аповесці Васіля Быкава. У «Чорнай панне Нясвіжа» Дударава ёсць непасрэдная сувязь з беларускай гісторыяй, што таксама было б цікава маладому рэжысёрскаму пакаленню.

Узяцца за такую працу маглі б многія мае выпускнікі, чые работы я вельмі паважаю: Рэната Грыцкевіч, Андрэй Голубеў, Андрэй Кудзіненка, Аляксей Анісімаў. Меў бы права на экранізацыю і Аляксандр Колбышаў, які, на жаль, заўчасна нас пакінуў. Цікавы рэжысёр Людміла Дуброўская, у якой я нядаўна здымаўся. Увогуле, у сваіх студэнтаў я б не адмовіўся ад любой ролі, нават у масоўцы.



**Ягор Конеў, выкладчык Інстытута журналістыкі БДУ, драматург:**

— Без залішняй сціпласці мяркую, што такім творам з'яўляецца мая п'еса «Гісторыя двух сабак», якая з 2009 года ідзе на сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Такі выбар аптымальны з розных пунктаў гледжання. Папершае, дзеянне адбываецца ў наш час. Адпаведна, каштаваць такое кіно будзе не дужа дорага. Па-другое, тэма гуманнага стаўлення да братоў нашых меншых не губляе актуальнасці. Прэм'еру «Гісторыі двух сабак» у РТБД сумясцілі з акцыяй дабрачыннай суполкі па доглядзе беспрытульных жывёл. У фае тэатра ўсталявалі стэнды, на якіх размясцілі фотаздымкі кінутых сабак. На ўласныя вочы бачыў: гледачы ўважліва вывучалі тыя стэнды перад праглядам спектакля. А асабліва — пасля яго. І на працягу трох месяцаў фотаздымкі жывёл на стэндзе пакрысе заклейваліся надпісам «Мяне ўжо забралі». Уявіце, якая рэакцыя адбудзецца пасля экранізацыі!

І паколькі п'еса арыентавана на дзіцячую аўдыторыю, то яе экранізацыя не састарэе яшчэ шмат гадоў, бо адно пакаленне будзе змяняць папярэдняе перад экранамі тэлевізараў.

А калі некаму падасца, нібыта мае заявы надта самаўпэўненыя, то запярэчу тым, што не хваліцца звычайна той, каму няма чым ганарыцца.



**Ганна Хітрык, актрыса, спявачка:**

— У першую чаргу выбар залежыць ад таго, хто будзе займацца экранізацыяй. У нас ёсць шмат рэжысёраў, якія могуць сапсаваць твор. Калі казаць пра класіку, трэба быць надзвычай акуратным. За апошні час асабіста мяне найбольш закранулі «Тутэйшыя» Янкі Купалы, «Літоўскі воўк» Алеся Наварыча і «Запіскі Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя. Але яшчэ раз падкрэсліваю: усё залежыць ад рэжысёра.

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Выгоды супрацоўніцтва

Прэс-канферэнцыя “Роля пісьменнікаў Беларусі і Расіі ў развіцці літаратуры Саюзнай дзяржавы і павышэнні ўзроўню супрацоўніцтва дзвюх краін” адбылася ў Нацыянальным прэс-цэнтры.

**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

Ва ўступным слове сустаршыня Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Мікалай Чаргінец падкрэсліў узаемныя эканамічныя выгоды ў супольнай працы дзвюх дзяржаў. Але зазначыў, што сёння менавіта пісьменнікі мусяць задумацца над тым, што можна зрабіць, каб народам Беларусі і Расіі жылося лепш. Распавёўшы пра асноўныя вехі стварэння Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы, Мікалай Іванавіч заўважыў, што апошнім часам у гэтае аб'яднанне імкнуцца літаратары і з іншых краін. «Кнігі беларускіх пісьменнікаў у вялікай колькасці выдаюцца ў Расіі. А мы імкнёмся, каб не толькі класікі расійскія, але і сучаснікі станавіліся вядомымі ў нас», — гэтыя словы М. Чаргінца ўскосна пацвярджае і той факт, што ўжо не першы год існуе часопіс Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы «Белая вежа». На яго старонках друкуюцца як самыя вядомыя расійскія творцы, так і нашы суайчыннікі. Разам з тым кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі заклапочана павышэннем накладаў і пашырэннем аўдыторыі выдання. СПБ рыхтуе яшчэ адзін сумесны праект — беларускі выпуск расійскага часопіса «Дон» (г. Растоў-на-Доне).

Распавёў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі і пра расійскія літаратурныя прэміі, якія нярэдка атрымліваюць айчынныя творцы. СПБ, у сваю чаргу, узнагароджвае расійскіх калег медалямі і прадстаўляе іх на беларускім кніжным рынку.

Пра расійска-беларускае супрацоўніцтва паміж літаратурнымі выданнямі дзвюх краін, а таксама дзейнасць РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» распавяла і галоўны рэдактар «ЛіМа» Таццяна Сівец. Дарэчы, нядаўна распачатая кніжная серыя «Сугучча сэрцаў» была прэзентавана і прыхільна сустрэта на апошняй Маскоўскай кніжнай выстаўцы.

Пісьменнікі падзяліліся і клопатамі. Сакратар СПБ Георгій Марчук выказаў заклапочанасць тым, як у сучаснай літаратуры ўзнімаецца пытанне духоўнасці і патрыятызму, назваў імёны расійскіх і беларускіх літаратараў, якія працуюць у гэтым рэчышчы.



Фота Кастуся Дробава

*Надзея Саевіч, укладальніца каталога.*

206 партрэтных і групавых здымкаў з фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы прадстаўлена ў каталогу «Ты гэтых вачэй не забудзь…». Прэзентацыя гэтага сапраўды ўнікальнага выдання, якое па сутнасці стала першай спробай навуковага апісання фатаграфій класіка, прайшла ў музеі Песняра.

# Сямейны альбом Купалы

Лёс можа скласціся так, што маленькі здымак аднойчы стане пачаткам вялікай гісторыі, адпраўным пунктам даследавання лёсу аўтара. Так сталася з адным з фотапартрэтаў Янкі Купалы, які быў падпісаны: «На добрую памятку С. Палуяну афяровую ад шчырага сэрца». Даследчыкі беларускай літаратуры ўжо ведалі, што Палуян некаторы час жыў у Вільні, працаваў у рэдакцыі газеты «Наша ніва», сябраваў з Янкам Купалам, у 19-гадовым узросце скончыў жыццё самагубствам, але больш поўных звестак пра яго жыццё і творчасць не было. І толькі той самы маленькі здымак даў падказку і стаў пачаткам доўгага, але надзвычай плённага падарожжа Вячаслава Рагойшы і яго жонкі Таццяны Кабржыцкай па слядах знічкі — Сяргея Палуяна…

Гэты здымак з легендай можна пабачыць у каталогу фатаграфій «Ты гэтых вачэй не забудзь…», што не так даўно падрыхтаваны Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы і выйшаў пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Укладальнікам кнігі стала галоўны захавальнік фондаў музея Надзея Саевіч.

Падчас прэзентацыі дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч падкрэсліла:

— Выданне гэтага альбома — значны крок у беларускім музеязнаўстве, купалазнаўстве. Ідэя каталагізацыі калекцый не новая для Купалавага музея, яна з'явілася яшчэ напрыканцы 1980-х гадоў. Наша культурная спадчына вельмі безабаронная, асабліва гэта датычыць дакументальнага матэрыялу, рукапісаў, фотаздымкаў, і нават спецыяльныя фондасховішчы не выратоўваюць дакументы ад разбурэння. Гэта не першы каталог нашых музейных калекцый, ужо пабачылі свет выданні «Янка Купала ў выяўленчым мастацтве», «Рукапісная спадчына Янкі Купалы», «Аўтографы першага народнага паэта Беларусі Янкі Купалы» і вось — каталог фотаздымкаў.

Альбом можна разглядаць, гартаць, чытаць, вывучаць бясконца. Ён знаёміць з новым Купалам: многія здымкі ў выданні друкуюцца ўпершыню і таму адкрываюць новыя аспекты асобы Песняра, распавядаюць пра адметныя моманты яго жыцця. Гэта як гартаць сямейны альбом і даведвацца пра лёс гаспадара. Па сутнасці, каталог і з'яўляецца сямейным альбомам Купалы, бо аснову музейнага фонду склаў асабісты архіў жонкі паэта Уладзіславы Луцэвіч.

Адметна і тое, што праца па каталагізацыі фондаў Купалавага музея працягваецца. У працэсе ўкладання — новы каталог, які будзе прысвечаны стваральніцы музея, яго першаму дырэктару Уладзіславе Луцэвіч.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Стасункі*

# Беларусь — Казахстан

У самым разгары — сезон кніжных выставак у блізкіх да Беларусі краінах. Чарговая сустрэча кніжнікаў і паліграфістаў — у Казахстане. Прадстаўнічая беларуская дэлегацыя на чале з першым намеснікам міністра інфармацыі краіны Ліліяй Ананіч прадстаўляе кніжную галіну нашай краіны на выстаўцы-кірмашы ў Алматы.

**Сяргей ШЫЧКО**



Фота Кастуся Дробава

*Любоў Шашкова падчас мінулага візіту ў Мінск.*

У Беларусі і Казахстана — трывалыя партнёрскія адносіны ў многіх галінах дзейнасці. І ў стасунках кніжных выдавецтваў і мас-медыя таксама. Таму і на VII Міжнароднай кніжнай і паліграфічнай выстаўцы-кірмашы «Па Вялікім Шаўковым шляху» экспаненты Беларусі, несумненна, прыцягнуць увагу.

— Мы збіраемся прэзентаваць кніжны праект «Сугучча сэрцаў» — бібліятэку кніг, над якой працуе Выдавецкі дом «Звязда», — зазначыла Лілія Ананіч. — У выданнях будуць прадстаўлены нацыянальныя літаратуры краін-удзельніц СНД. Першая кніга пабачыла ўжо свет. У Алматы госці выстаўкі змогуць пазнаёміцца з электроннай прэзентацыяй кнігі, прысвечанай Казахстану. Анталогіі перакладаў паэзіі свету «Лучнасць» і творчасці кітайскіх аўтараў «Пад крыламі Дракона. Сто паэтаў Кітая», выдадзеныя зусім нядаўна, — таксама падстава для размовы пра міжнародныя стасункі ў галіне літаратуры, культуры з усходнімі краінамі. А яшчэ мы вязём у Казахстан кнігу Абая «Стэпавы прастор». Спадзяёмся і на развіццё новых стасункаў, на новыя сустрэчы зацікаўленых у партнёрстве выдавецтваў. Сёння поспехам карыстаецца дзіцячая кніга. Ведаем, што і ў Казахстане ёсць добрыя здабыткі ў гэтым кірунку… Агульная Еўразійская прастора патрабуе ад нас і выразнага развіцця зносін у галіне паліграфіі, распаўсюджвання кніжнай і перыядычнай прадукцыі. Дзеля рэалізацыі гэтых планаў у Алматы едуць і кіраўнікі паліграфічных прадпрыемстваў, кнігагандлёвай сеткі нашай краіны.

Добрыя адносіны і ў пісьменніцкіх арганізацый Беларусі і Казахстана. У Алматы, Астане неаднойчы бывалі беларускія творцы, у тым ліку Уладзімір Гніламёдаў, Мікалай Чаргінец, Леанід Левановіч, Алесь Бадак і іншыя. Шмат хто з сяброў СПБ у розныя гады жыў і працаваў у Казахстане: Юрый Фатнеў, Алег Ждан і інш. Канечне ж, асабістыя кантакты, веданне краіны і яе народа з'яўляецца падставай для сур'ёзнага паглыблення ў свет, здавалася б, далёкай жыццёвай і мастацкай прасторы. Невыпадкова часта на старонках беларускіх літаратурна-мастацкіх часопісаў з'яўляюцца пераклады сучасных паэтаў Казахстана. А сярод іх — і вершы нашай зямлячкі, рэдактара аддзела часопіса «Простор» Любові Шашковай. А ў самім «Просторе» традыцыяй стаў выпуск «беларускіх» нумароў.

# Пытанні і арыенціры

«Круглы стол» «Беларуска-кітайскі культурны дыялог» — традыцыйнае мерапрыемства кафедры кітайскай філалогіі філалагічнага факультэта БДУ.

**Юлія ШАБЛОЎСКАЯ**

Сёння форум — пляцоўка для папулярызацыі кітайскай мовы і культуры.

Як зазначыў дэкан філалагічнага факультэта БДУ Іван Роўда, пачатак беларуска-кітайскаму дыялогу быў пакладзены ў 1989 годзе, калі на факультэт прыехалі першыя кітайскія стажоры. А сёння многія з былых студэнтаў сталі дакладчыкамі.

У межах красавіцкага форуму адбылася прэзентацыя перыядычных выданняў, навуковай і мастацкай літаратуры, тэматычныя выступленні. Вялікую цікавасць удзельнікаў і гасцей выклікала творчая прэзентацыя кнігі кітайскай паэзіі «Пад крыламі Дракона. Сто паэтаў Кітая», якую ўклаў і пераклаў галоўны рэдактар часопіса «Полымя», паэт Мікола Мятліцкі. Мікола Міхайлавіч лічыць кітайскую паэзію рэалістычнай паэзіяй сённяшняга дня, вялікай мараллю грамадства, бо стваралі яе самыя адукаваныя людзі краіны. У гэтых вершах — душа народа, жывыя пачуцці». Цудоўнай ілюстрацыяй да слоў Міколы Мятліцкага стала паэтычная старонка, якую падрыхтавалі студэнткі першага курса спецыяльнасці «Усходняя літаратура».

Разглядаліся на форуме і навуковыя пытанні беларуска-культурнага супрацоўніцтва. Прафесар кафедры кітайскай філалогіі Цзян Цюнь прадставіў прэзентацыю, у якой адказаў на тры асноўныя пытанні ў галіне вучэбна-метадычнай работы па кітайскай мове: што зроблена, што робіцца, што будзе зроблена. Юлія Малаткова, старэйшы выкладчык кафедры кітайскай філалогіі, распавяла пра падрыхтоўку кніжкі-практыкуму па кітайскай мове для вучняў 5 — 6 класаў сярэдніх школ.

З цікаўнасцю студэнты слухалі Вячаслава Рагойшу, загадчыка кафедры тэорыі літаратуры БДУ. Ён прадставіў даклад «Падарожжа Максіма Танка ў Кітай» паводле «Дзённікаў паэта». Вераніка Карлюкевіч, намеснік дырэктара Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ, распавяла пра асаблівасці і патэнцыял развіцця мастацкага перакладу з кітайскай на беларускую мову: «Мы павінны працаваць з улікам трох арыенціраў — прафесіяналізму, паслядоўнасці і падтрымкі зацікаўленых асоб». В. Карлюкевіч пазнаёміла прысутных з вынікамі конкурсаў мастацкага перакладу з кітайскай мовы «Вечнасць — гэта колькі?» і перакладаў на кітайскую мову твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа, прымеркаваных да 130-годдзя з дня нараджэння песняроў.

У межах «круглага стала» была прадстаўлена выстаўка метадычнай і мастацкай перакладной літаратуры. Атрымалі студэнты і падарунак: Аляксандр Гардзей, дырэктар Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ, ад імя сваёй установы перадаў універсітэту 300 экзэмпляраў вучэбнай і метадычнай літаратуры.

# Альтэрнатыва «зубрам»

З'яўленне новых сродкаў масавай інфармацыі, друкаваных у тым ліку, — заўсёды падзея. Знаёмімся: літаратурна-мастацкі часопіс «Метаморфозы».

**Лея ХАШЫМБА**

Змяшчае ён руска- і беларускамоўныя тэксты самых розных аўтараў: ад юнакоў-пачаткоўцаў да сталых творцаў. Часопіс не «тоўсты», але надзвычай змястоўны. На 140 старонках паменшанага (я б сказала — элегантнага) фармату — 10 канцэптуальных раздзелаў. Гэта і традыцыйныя «Паэзія», Проза», «Публіцыстыка» і г. д., і не зусім звыклыя, напрыклад, «Арт-клуб» (эсэ на мастацкія тэмы ў самым шырокім сэнсе).

Асабліва цікавымі па першым нумары падаліся раздзелы «Прэзентацыя» (школы-студыі «Малады літаратар» з Гомеля і Віртуальнага літаратурнага клуба пры Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь), «Дэбют» (вось яны, юнакі!), «Пераклады» (гэтым разам — санетаў Шэкспіра Мікалаем Цімохіным з Казахстана).

Адметнасць новага выдання — інтэрнацыянальны характар. Літаратурна-мастацкі савет прадстаўлены асобамі з Беларусі (Гомеля і Мінска), Расіі, Казахстана і Украіны. Такая ж геаграфія адпавядае аўтарскаму складу часопіса. Ёсць аўтары з Бійска (Алтайскі край), Горлаўкі (Украіна), Яраслаўля... Значная частка аўтараў з Беларусі — паходжаннем з самых розных куткоў постсавецкай прасторы: з Масквы, Ніжагародскай вобласці, Сібіры... І наадварот: этнічныя беларусы з розных куткоў свету (нават з Тэхаса) пішуць на роднай мове. У гэтым сэнсе «Метаморфозы» — выдатная магчымасць не губляць сувязь з радзімай. «Каталізатарам літаратурнага жыцця» назваў часопіс старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец.

Мастацкая ніша першага нумара ўкладзеная творамі Роберта Ландарскага з Гомеля: яны змешчаны на глянцавай каляровай уклейцы і надаюць асаблівы шарм «Метаморфозам».

Падаецца, што для поспеху ў прасторы мас-медыя новаму выданню спатрэбіцца распрацоўка тэматычнай канцэпцыі. Гэта тым больш непазбежна, што пры інтэрнацыянальным пазіцыяніраванні трэба захаваць шматстайнасць публікацый. Без тэматычнага абагульнення цяжка спрыяць цэльнасці ўспрымання чытача.

# Пісьменнікі ўсміхаюцца

Днямі сталічная бібліятэка № 5 сустракала вядомых пісьменнікаў-гумарыстаў. Ідэя абазначыць прафесійнае» свята творчай сустрэчай належыць рэдакцыі часопіса «Вожык» і Мінскаму гарадскому аддзяленню Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**Іна ФРАЛОВА**

Адкрыла «Свята гумару» галоўны рэдактар «Вожыка» Юлія Зарэцкая. Яе падтрымаў вядучы імпрэзы Павел Саковіч. Ён падзяліўся сакрэтам пра тое, як праца ў часопісе паўплывала на змену іміджу Юліі Францаўны. З дзяўчыны-летуценніцы яна ператварылася ў строгую рэдактарку з шыкоўным вожыкам на плячах замест футра. Але, падкрэсліў Павел Паўлавіч, «вожыка на плячах мець значна зручней, чым кожны дзень быць як на іголках».

Слушныя парады ад героя жартоўнага верша Сяргея Далідовіча атрымалі слухачы-мужчыны. Герой-небарака распавядаў, як па дарозе ў рай не патрапіць на кручок да самотных прыгажунь.

Калі Янусь Малец падрыхтаваў майстар-клас па рыбнай лоўлі (пагадзіцеся, трыста плотак налавіць штанамі — гэта не жартачкі!), то першынство па ўраджаі агуркоў узяла Вольга Сакалова. Пры тым нікога не засмуціла, што агуркі паэтэса збірала разам з невядомым Апанасам.

Быў «на хвалі» і Сяргей Трахімёнак. Прапанаваны бардам «план па салаўіных спевах» выклікаў у слухачоў такі пазітыў, што, нягледзячы на строгі рэгламент, Сяргей Аляксандравіч спяваў на біс.

Пасля эпіграм на Міколу Шабовіча, Яўгена Хвалея, Міколу Мятліцкага і Міхася Пазнякова Дзмітрый Дземідовіч прапанаваў увазе прысутных уласны жартоўны слоўнік. Не ўсе ведалі, што «абабак» мае значэнне — «чалавек, які заўсёды знаходзіцца побач з асобамі жаночага полу». Не менш арыгінальнае значэнне маюць словы «дажынкі» і «дантыст». Першае — «заляцанне да жонкі, і пажадана да чужой», другое — «знаўца творчасці Дантэ».

У час імпрэзы ўтульная зала бібліятэкі ператварылася ў хімічную лабараторыю. Гэта нястомны Пётр Радзечка, як сапраўдны даследчык, узважваў, дазаваў і па-майстэрску кампанаваў эпіграмы. Як аваладаць мастацтвам арыгамі, з вялікім энтузіязмам вучыла Аліна Легастаева. Не застаўся незаўважаным і старшыня секцыі сатыры і гумару СПБ Мікола Шабовіч. Яго «трохкутнік» стварыў недзіцячую канкурэнцыю Казіміру Малевічу. Пасля выступлення Міколы Шабовіча прагучалі песні Дзмітрыя Пятровіча — некаторыя на словы і музыку Міколы Віктаравіча.



*Уладзімір Ермалаеў чытае гумарыстычныя творы.*

Самым лаканічным быў Уладзімір Скарынкін. І з гэтай нагоды наступны паэт — сапраўдны майстра гумарыстычнага жанру Уладзімір Ермалаеў — умомант прыплюсаваў да свайго выступлення невыкарыстаныя хвіліны калегі — каб нічога не прапала.

Скончылася вечарына пажаданнем радзей сустракацца ў жыцці з персанажамі твораў гумарыстаў.

# Музыка вялікай дынастыі

**Павел САПОЦЬКА**

Апошні тыдзень сакавіка адзначыўся ў культурным жыцці Беларусі, Расіі і Літвы вялікім праектам «Музыка княжага роду Агінскіх» — музычным турнэ па маршруце Рэтавас — Вільнюс — Маладзечна — Мінск — Масква, які адбыўся ў рамках міжнароднай праграмы «Шляхамі паланэзаў Агінскага».

Праект арганізаваны Маладзечанскім мясцовым дабрачынным фондам «Спадчына М. К. Агінскага». А ўдзельнікамі сталі інструментальны квартэт Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. К. Агінскага, студэнты Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных (Масква) і Нацыянальнай школы мастацтваў імя М. Чурлёніса (Вільнюс). Выконваліся інструментальныя і вакальныя творы Міхала Клеафаса Агінскага, Караля Агінскага, Амеліі Агінскай-Залускай.

Канцэрты выклікалі вялікую цікавасць на ўсіх гарадах, у тым ліку трох сталіцах: на іх прысутнічалі вядомыя музычныя дзеячы, прадстаўнікі адміністрацый гарадоў, кіраўнікі дыяспар, дыпламатычнага корпуса, міністэрстваў культуры і замежных спраў.

Пасля канцэрта ў Мінску ў Домемузеі Ваньковічаў намеснік міністра культуры Тадэуш Стружэцкі адзначыў: «Мы адчуваем вялікую неабходнасць у падобных мерапрыемствах, якія аб'ядноўваюць людзей дзякуючы музыцы. Гэта турнэ — яшчэ адзін крок насустрач адзін аднаму ў развіцці нашых культурных кантактаў».

## Прынятыя ў СПБ



**ВЕРЦІХОЎСКАЯ Марыя Іванаўна**

*Літаратуразнаўца*

Нарадзілася 28 красавіка 1949 года ў в. Клепачы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Працавала метадыстам і выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры. Выдатнік народнай асветы. Аўтар кніг «Вывучэнне творчасці Францыска Скарыны ў школе» (2006), «Школьны тлумачальны слоўнік» (2006), «Урокі літаратуры: пошук і творчасць» (2008), «Залатыя зярняты: тлумачальна-перакладны слоўнік» (2009), «Вывучэнне літаратуры ў старшых класах» (2012) і іншыя.



**КЕНЬКА Міхаіл Паўлавіч**

*Крытык, літаратуразнаўца, перакладчык*

Нарадзіўся 8 лютага 1947 года ў в. Верацеі Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута, аспірантуру пры Інстытуце літаратуры Акадэміі навук БССР. Працуе на філалагічным факультэце БДУ. Дацэнт, кандыдат філалагічных навук. Аўтар кніг «Міхась Лынькоў. Летапіс жыцця і творчасці» (1987), «Майстэрня Аркадзя Куляшова — перакладчыка» (2012). Пераклаў творы Г. Сянкевіча, Ю. Крашэўскага, В. Палянецкага, Э. Баса, Л. Андрэева, Л. Вяжбіцкага.



**НОВІКАЎ Аляксандр Пятровіч**

*Літаратурны крытык*

Нарадзіўся 11 снежня 1951 года ў г. Гомелі. Скончыў механіка-матэматычны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. З 1979 па 1991 гг. знаходзіўся на ваеннай службе ў органах КДБ. Друкаваўся ў часопісах «Белая Вежа», «Беларуская думка» Аўтар кнігі публіцыстычных і літаратурных артыкулаў «Неизбежный поворот» (2012).



**СТЭЛЬМАХ Алена Анатольеўна**

*Публіцыст*

Нарадзілася 30 ліпеня 1965 г. у в. Навасады Дзяржынскага раёна. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Галоўны рэдактар газеты «Сцяг Кастрычніка» (г. Дзяржынск). Аўтар зборнікаў публіцыстыкі «Лесные дороги подвига» (2005), «Лесной альманах» (2005), «Леса и лесоводы Минщины» (2006) і іншыя.

## Абрысы

Саюз пісьменнікаў Беларусі запрашае аматараў прыгожага пісьменства на аўтарскі вечар паэта і перакладчыка Хізры Асадулаева, які адбудзецца 16 красавіка ў Расійскім цэнтры навукі і культуры (вул. Ракаўская, 16 б). Пачатак а 18-й гадзіне. А на наступны дзень у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбудзецца прэзентацыя кнігі вершаў і паэм Сяргея Давідовіча «У віры падзей», якая нядаўна пабачыла свет. Пачатак імпрэзы — а 17-й гадзіне.

Прыняцце ў Саюз пісьменнікаў Беларусі для кожнага творцы — падзея не шараговая. Тым больш адчуваеш яе значнасць, калі ўручэнне білетаў праходзіць ва ўрачыстай абстаноўцы і віншуюць з гэтай падзеяй сталыя сябры творчай суполкі. Такое свята традыцыйна дорыць новым членам СПБ Мінскае гарадское аддзяленне саюза і Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа. Творцаў Маргарыту Латышкевіч і Марыю Верціхоўскую віншавалі старшыня абласнога аддзялення Міхась Пазнякоў, сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч і дырэктар музея Зінаіда Камароўская. А паколькі на імпрэзе было шмат літаратараў, яна заканамерна ператварылася ў свята паэзіі.

Гомель наведаў сябра Саюза пісьменнікаў і Саюза тэатральных дзеячаў Расіі, паэт, празаік і публіцыст Мікалай Галоўкін, які працуе адказным сакратаром літаратурна-гістарычнага часопіса «Великороссъ» (Масква). Разам з беларускім празаікам і драматургам Васілём Ткачовым яны сустрэліся з чытачамі ў Гомельскім дзяржаўным аграрнатэхнічным каледжы. Госці расказалі пра свае творчыя здабыткі, падзяліліся планамі на будучае, і, вядома ж, чыталі ўласныя творы. Не абмінулі яны ўвагай і ўзаемаадносіны паміж расійскімі і беларускімі пісьменнікамі, справядліва падкрэсліўшы пры гэтым, што лепшыя творы беларускіх аўтараў знаходзяць свайго чытача ў Расіі, а расійскіх — у Беларусі. Некалькі асобнікаў часопіса «Великороссъ», а таксама сваёй апошняй паэтычнай кнігі «Рабіна» Мікалай Галоўкін перадаў бібліятэкам Гомеля.

Названы імёны сёлетніх лаўрэатаў конкурсу імя І. М. Ушакова, які праходзіць сярод малады мастакоў-сцэнографістаў. У спаборніцтве ўзялі ўдзел В. Грыцаева (Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Коласа), І. Анісенка (Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы), А. Меранкоў (Магілёўскі абласны драматычны тэатр імя Я. Купалы). Па-за конкурсам таксама адбылася прэзентацыя работы В. Грыцаевай «Неверагодныя прыгоды пінгвінаў» па п'есе У. Хуба. Уладальнікам 13-й прэміі конкурсу імя І. М. Ушакова стаў мастак Ігар Анісенка за сцэнаграфію спектакля «Людзі на балоце» І. Мележа. Таксама старшыня журы Беларускага фонду культуры У. Гілеп адзначыў удалае мастацкае вырашэнне сцэнаграфіі да спектакляў «Песні ваўка» В. Паніна і «Камедыя» У. Рудава, прапанаванае В. Грыцаевай і А. Меранковым адпаведна.

# Гід па XVIII стагоддзі

Людміла Рублеўская ў студзені прэзентавала кнігу «Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега». Раман з'яўляецца першай часткай ужо напісанай трылогіі. Гэта адчувальна: калі чытач застаецца сам-насам з апошняй старонкай і глядзіць услед экіпажу і конніку, якія паціху знікаюць за даляглядам, узнікае сіратлівае пачуццё пакінутасці, незавершанасці, абдзеленасці. Як любая добрая кніга, «Авантуры Пранціша Вырвіча…» чытаюцца нагбом і заканчваюцца нечакана. Спачатку нясешся на злом галавы ўслед за героямі, а потым расчаравана азіраешся: а дзе ж яны падзеліся?

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Сюжэт рамана класічна прыгодніцкі, і асабліва арганічна ён выглядае таму, што дзеянні адбываюцца ў XVIII стагоддзі. Тут табе і чароўныя дамы, і мужныя вoі, і інтрыгі, і скарбы, і пагоні, і бойкі, і — безумоўна — каханне…

Былы шкаляр езуіцкага калегіюма Пранціш Вырвіч, у якога мала фінансаў і багата гонару, за апошні шэлег па волі лёсу купляе слугу — доктара і былога алхіміка Баўтрамея Лёдніка. І вось ён перад намі: высокі, худы, чорныя доўгія валасы падкрэсліваюць бледнасць, вочы цёмныя і калючыя, нос — што дзюба драпежнай птушкі, да таго ж апраны доктар у доўгі чорны «балахон». Характар у спадара алхіміка такі ж цяжкі, як і позірк: спляценне выбітнага розуму, бездані ведаў, мудрасці, пачуцця ўласнае годнасці, саркастычнасці і роспачы. Вось тут і прыгадаўся, так бы мовіць, калега Баўтрамея Лёдніка — такі самы змрочны, таямнічы і прыцягальны прафесар Северус Снэйп (патэрыяна Дж. Роўлінг).

Сам жа Пранціш Вырвіч добра паразумеўся б са слаўным мушкецёрам Д'Артаньянам. У іх шмат агульнага: абодва са збяднелага шляхецкага роду, абодвум па 18 гадоў на час першай кнігі, кроў у іх аднолькава гарачая, што прыводзіць да новых і новых прыгод. Для маладога Вырвіча галоўнае — шляхецкі гонар. Хлопец гатовы кідацца з шабляй на дзясятак узброеных стрэльбамі жаўнераў (паспяхова, дарэчы), цалаваць ручкі дамам (і тут ёсць пэўны поспех), абараняць свае правы. Як-ніяк, вядзе свой род ад самога Палямона (міф пра сармацтва ліцвінскай шляхты прыкладаецца, як і процьма іншых міфаў). Аднак Людміла Рублеўская пайшла далей за Дзюма, і ў тым яе вялікая заслуга: калі Д'Артаньян застаецца (прынамсі, у першай кнізе) усё тым жа ганарыстым і дзёрзкім хлапчыскам, то наш Вырвіч сталее і пачынае ўсведамляць: усе людзі па нараджэнні маюць аднолькавыя правы; галоўнае ў асобе — не тытул, а асабістыя якасці; найвялікшая каштоўнасць — не дукаты, але мужнасць, годнасць, чалавечнасць і падобныя высакародныя катэгорыі. І, як мне падаецца, ураўнаважаны і мудры Баўтрамей Лёднік — гэта Пранціш Вырвіч будучага, так бы мовіць, на вышэйшай стадыі эвалюцыі. Тым больш калі ўлічыць, што доктар па сутнасці стаў не слугою маладому шляхцічу, але Настаўнікам у самым лепшым значэнні гэтага слова.

Пазней з'яўляецца трэці галоўны герой, дакладней, гераіня — Саламея Рэніч. Вучоная жанчына, доктарка, аматарка кніг. Да таго ж, амазонка. І такая дзёрзкая, што апранаецца ў мужчынскае адзенне і слухае лекцыі разам з мужчынамі! Ды яшчэ і нагавіцы носіць. І зноў складана пазбегнуць асацыяцый з вядомымі героямі. На гэты раз — з цёскай полацкай амазонкі Саламеяй Русецкай-Пільштыновай. Людміла Рублеўская сама пра яе згадвае ў прадмове да рамана: «Беларуская лекарка Саламея Русецкая-Пільштынова раз'язджала ў карэце між палацам турэцкага султана, нясвіжскімі ўладаннямі Радзівілаў і палацам расійскай імператрыцы…» Але ёсць і істотнае адрозненне: Саламея ў Рублеўскай не такая легкадумная, як славутая беларуская падарожніца. Зусім наадварот.

Так, на старонках адной кнігі сышліся класічныя вобразы: малады і гарачы шляхціц — Вырвіч; высакародны, мужны і мудры пакутнік — Лёднік; разумная, пяшчотная, верная жанчына нябеснай прыгажосці — Рэніч. Такія вобразы, у нечым нават архетыповыя, будуць выйгрышнымі пры любым раскладзе і ў любыя часы. Яны ўяўляюць тыя самыя ідэалы, якіх так прагнуць падлеткі.

«Авантуры Пранціша Вырвіча…» — кніга, якую чытач даўно чакаў. Нарэшце з'явілася альтэрнатыва рамантызаванай гістарычнай прозе Уладзіміра Караткевіча. Дарэчы, у спадарыні Людмілы ёсць спасылкі на шаноўнага класіка: прыкладам, у Саламеі — вялізныя сінія вочы, і менавіта такія вочы любіў і старанна вымалёўваў у сваіх раманах Уладзімір Сямёнавіч; альбо прамое цытаванне: пісьменніца згадвае шляхціца, які «высакародна араў сваё поле» (калі памятаеце, Багдан Роскаш, адзін з «апосталаў» у рамане



Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», займаўся тым жа).

Акрамя таго, новы раман Рублеўскай здольны стаць «маяком» для падлеткаў, якія проста губляюцца ў акіяне інфармацыі. Разам з найвышэйшымі маральнымі існінамі чытач засвоіць безліч карысных ведаў: пра побыт і звычаі беларускай шляхты і магнатэрыі, пра іх норавы (часам дзікія да жудасці), пра законы і грамадскі лад. Наўрад ці дапаможнік па гісторыі Беларусі здольны скласці такое яскравае і аб'ёмнае ўяўленне пра XVIII стагоддзе, як «Авантуры Пранціша Вырвіча…». Як не ў стане ніякі, нават самы лепшы ў свеце, падручнік перадаць той самы вечны затоены боль за нашую шматпакутную зямлю, якія ледзь не ўсе адмаўляюць — бо колькі ж можна? — але ўсе адчуваюць. І разам з тым — бясконцую любоў да зямлі, якая «спаконвек на скрыжаванні», якую «здабываюць, як філасофскі камень, зацята, стагоддзямі, не шкадуючы сродкаў і жыццяў чалавечых, і калі б з костак і крыві вырасталі белыя дрэвы з чырвоным лісцем, як у бабулінай казцы, дык пушчы й лясы зямлі гэтай нагадвалі б чырвонае мора…»

Колькі слоў пра мову. Адзін раз толькі пісьменніца схібіла, калі Лёднік у роспачы ўздыхнуў: «Ё-маё…» Неяк не ўяўляецца, каб у 1759 годзе алхімік мог выказацца такім чынам. У астатнім застаецца толькі захапляцца і смакаваць («Маўчанне зацягнулася, як варшаўскі сойм»). Стыль адмыслова велягурысты, як і мусіць быць у куртуазных раманах, але велягурыстасць гэтая падаецца парадыйнай, да таго ж яна прыпраўленая іроніяй. Не можа не радаваць пачуццё гумару — адзіна верны індыкатар мудрасці.

Адным словам, раман цудоўны. Прыемнага вам прачытання.

# Накаванава тварыць

**Надзея ПАРЧУК**

Гэты год для берасцейскай паэтэсы, празаіка Веры Пракаповіч юбілейны. Пра Веру Паўлаўну, як і пра яе творчасць, можна гаварыць натхнёна і бясконца. Сёння, ацэньваючы свой няроўны жыццёвы шлях, у якім былі і ўзлёты, і падзенні, паэтэса можа ганарыцца, бо не паступілася годнасцю, не страціла радасці жыцця. Дзякуючы свайму таленту, руплівасці, самаададнай працы душы і розуму Вера Пракаповіч дасягнула многага, пра што марыла ў далёкім юнацтве, сцвердзілася як майстар прыгожага пісьменства.

Нарадзілася Вера Паўлаўна ў сялянскай сям'і ў в. Малыя Мурыны Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. У паэзію закахалася з дзяцінства. Першае абуджэнне стваральнай душы, пробу пяра здольнай пяцікласніцы ахвотна надрукавала раённая газета. Гэта акрыляла школьніцу і падбадзёрвала да творчасці. Але, скончыўшы школу, Вера неўзабаве выйшла замуж, нарадзіла дзетак, потым быў ад'езд за мяжу. Жыццёвыя клопаты не пакідалі месца паэзіі. Па вяртанні на Радзіму ў Веры Паўлаўны адкрылася, як кажуць, «другое дыханне», якое, спадзяёмся, больш не пакіне таленавітую аўтарку.

У сваіх паэтычных творах яна апявае чалавечую вернасць і каханне, шчодрасць і чуласць душы, вечныя хрысціянскія каштоўнасці, любоў да роднай зямлі, бацькоўскага куточка, па-мастацку і з дачынай любоўю вымалёўвае вобраз маці, адпрэчвае людскую няшчырасць, жорсткасць і фальш. Яе паэзія — вобразная, глыбакадумная, меладычная, па-жаночы шчымлівa-шчырая і кранальная. Паэтэсе падуладна не толькі класічная форма вершапісання, але і верлібр.

Што датычыць прозы Веры Пракаповіч, то ўся яна не выдуманая, тэмы, сюжэты пісьменніца чэрпае з жыцця.

Творы таленавітай аўтаркі друкаваліся ў часопісах «Маладосць», «Гаспадыня», «Алеся», «Акно», у альманахах «Жырандоля», «Гоман», калектыўных зборніках «Паэзія 2011», «Поэты России», а найчасцей — у берасцейскай перыёдыцы.

За кароткі час Вера Пракаповіч выдала два паэтычныя зборнікі («Нябачнай ніццю» і «Боль ад кахання») і адну празаічную кнігу — «Дарога дамоў». Цяпер рыхтуецца да друку яе зборнік выбранага.

# З вышыні белага маладзіка

У мінскім выдавецтве «Кнігазбор» выйшаў першы зборнік паэта з Кругляншчыны Віктара Бяляцкага. Кніга мае назву «Белы маладзік».

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Паэты з Магілёўшчыны любяць белы колер. Прыгадваюцца радкі Анатоля Сербантовіча:

*Сняжынкі — белыя агні,*
*Кусты малочныя, алеі —*
*І эталонам чысціні*
*Мая каханая бялее.*

А ў Алеся Пісьмянкова белы колер наогул праходзіць праз усе вершы. І свой першы зборнік паэт так і назваў — «Белы Камень»:

*Проста ў вёсцы Белы Камень*
*Самы белы ў свеце снег.*

Цяпер белы маладзік паэта з Кругляншчыны свеціць над Белым Каменем паэта з Касцюковіччыны. У Алеся Пісьмянкова чытаю:

*Любіць прызначана мне лёсам:*
*Я не памру, пакуль люблю.*

Віктар Бяляцкі нібы працягвае яго думку:

*Я буду жыць пад белымі снягамі*
*І не памру, пакуль жыве любоў.*

З Віктарам Бяляцкім я пазнаёміўся ў канцы 1970-х гадоў, калі разам вучыліся ў Магілёўскім культсветвучылішчы. Праўда, ён быў старэйшы за мяне, паступіў туды пасля дзесяцігодкі. Друкавацца В. Бяляцкі пачаў проста і лёгка, трапіўшы пад крыло Аляксея Пысіна. Памятаю яго падборку ў «Магілёўскай праўдзе», асабліва запомніліся радкі пра маці, якая радуецца першым крокам свайго дзіцяці.



Пазней добрыя падборкі Віктара Бяляцкага з'яўляліся ў «Маладосці», «ЛіМе», «Беларусі». Але найбольш аўтар друкаваўся ў мясцовым раённым і абласным друку. Праўда, з-за сваёй сціпласці Віктар пісаў для сябе. І аказалася, што з гадамі назбіралася шмат твораў. Я ўгаворваў яго выдаць іх асобным зборнікам. Ён у рэшце рэшт пагадзіўся.

Вершы, якія ўвайшлі ў зборнік «Белы маладзік», немудрагелістыя, наадварот, яны простыя і зразумелыя чытачам. Паэт піша ў і піша пра тое, што бачыць, што добра ведае, што перажыў і што хвалюе. А гэта — вёска, маці, прырода, згадкі пра вялікіх людзей, рэха Другой сусветнай вайны, а таксама каханне. Пра каханне аўтар піша неяк асцярожна, з крыўдай на сваю лірычную гераіню, наіўна і нават смешна.

Значна шырэй і смялей Віктар Бяляцкі апісвае вёску, куды любіць прыязджаць, дзе «з галінкі яблыкі ля плота збівае ціха лістапад». Хораша і чулліва паэт прыгадвае майстравітага дзеда Адася: калі «ўсё сяло з ягонымі граблямі некалі ішло на сенажаць». То сумуе па цётцы Марыі, якую вёска ведала як спрытную, удалую жняю. Вельмі шкадуе аўтар таго вясковага жыцця, якое прайшло гэтак жа хутка, як і маленства. Цяпер да роднай хаты толькі вяртаецца з дарог — вяртаецца да маці, да землякоў:

*Буду я маліцца, буду мілаваць*
*Гэтыя дарогі, гэту сенажаць…*

Сёння пра вёску пішуць мала, асабліва маладыя аўтары. Але яны і не ведаюць той вёскі, дзе, «расчыніўшы насцеж дзверы хаты, хлапчук вясёлы ў вясну пабег», вёскі, дзе заўсёды чакала маці, бо «шлях да маці — самы родны шлях». Віктару Бяляцкаму гэтая тэма знаёмая з маленства, таму ён шчыры ў сваіх пачуццях. Аўтар імкнецца перадаць багацце чалавечай душы, аналізуе адносіны асобы з грамадствам, складаныя ўзаемадачыненні са светам прыроды, з першародный гармоніяй і красой.

На высокай публіцыстычнай ноце гучаць вершы, прысвечаныя Беларусі, Магілёўшчыне, Кругляншчыне. Яны авеяныя шчырым лірызмам і філасофскай задуменнасцю, напоўненыя сыноўняй любоўю да сваёй зямлі, суайчыннікаў. Беларусь уяўляецца «надзейным берагам», а Кругляншчына захапляе сваім хараством, бо нідзе больш, толькі тут, «неба ў азёрах умываецца ў чыстай вадзе».

Ёсць у зборніку і вершы-прысвячэнні Аляксею Пысіну, Максіму Багдановічу, Янку Купалу, Якубу Коласу, Канстанціну Сіманаву, Яўгеніі Янішчыц і іншым творцам. Паэт сцвярджае, і з ім можна пагадзіцца, што «песня Максіма Багдановіча льецца па ўсю Беларусь» і «пысінская свеціць вышыня». З гэтай пысінскай вышыні, з вышыні белага маладзіка бачна, як жыве і плённа працуе Віктар Бяляцкі, у полі зроку якога — дарагія вобразы роднай зямлі.

# Спыніць імгненне

Максім Багдановіч звярнуўся да творчасці Поля Верлена ў 1911 — 1912 гг., у час плённай працы над зборнікам «Вянок».

**Галіна АДАМОВІЧ**

Ён дасылае ў рэдакцыю «Маладой Беларусі» тры свае пераклады з Верлена: «Асенняя песня», «Плач сэрца майго…» і «Трэ нам, бачыш…». У ліпені 1912 г. піша ў рэдакцыю «Нашай Нівы» ліст з просьбаю ўключыць у яго першы зборнік перакладзеныя ім 22 вершы Верлена, вылучыўшы іх у асобны раздзел «З чужой глебы». Каб аб'ём кнігі не павялічыўся, паэт прапанаваў рэдакцыі выкінуць са зборніка 20 арыгінальных вершаў. У сакавіку наступнага года ён зноў піша ў «Нашу Ніву» наконт Верлена, просячы паставіць над перакладамі эпіграфы і прысвячэнні; у кастрычніку гэтага ж года дасылае яшчэ адзін ліст: асобны раздзел з перакладамі Верлена трэба друкаваць пасля «Мадоннаў».

Гэтыя пажаданні не былі ўлічаныя. «Вянок» выйшаў без перакладаў з французскага паэта. Але факт застаецца фактам. М. Багдановіч ставіўся да сваёй перакладчыцкай дзейнасці, менавіта з Поля Верлена, вельмі клапатліва.

Звыклае, як вядома, не прыцягвае асаблівай увагі. Людзям уласціва захапляцца далёкім, экзатычным, дзе «нас няма». Там, дзе «нас няма», бачацца цуды. Але мастацтва дазваляе знайсці і ўбачыць гэтыя цуды дома. М. Багдановіч пісаў: «Ах, колькі ёсць красы цудоўнай поруч з намі, калі глядзець вакол дзіцячымі вачамі».

Імпрэсіяністы любілі маляваць на пленэры. На адкрытай прасторы, на чыстым паветры, назіраючы змены ў наваколлі. Яны спынялі імгненне і заўважалі яго непаўторнасць і прыгажосць.

«Абярніся, глянь ка мне ў вочы, поўныя кахання…», «Глянь, месяц бледны…» — пісаў Верлен, і яго заклік пачуў і пераклаў М. Багдановіч. Беларускі паэт пераймае гэты заклік французскага паэта і ў перакладах з французскай, і ў сваіх арыгінальных вершах: «бачыш…», «кінь пагляд…», «пабачце!..», «кінь толькі вокам…».

Спыніўшы імгненне, паэт заўважае тое, на што прывык глядзець кожны з нас. Але бачыць і заўважаць прыгажосць свету дадзена не кожнаму. Заўважыць адметнасць, адрознасць з'явы, рэчы ў пэўнае імгненне — гэтая здольнасць яднае Верлена і Багдановіча. Заўважыць і адлюстраваць праз паэтычнае слова непаўторнасць туману, што навіс над горадам, раскінуўся ў полі, абступіў наезджаны шлях…

Так, Клод Манэ маляваў лонданскія туманы. Канстанцін Паўстоўскі ў аповесці «Залатая ружа» пісаў: «Французскі мастак Манэ прыехаў у Лондан і маляваў Вестмінстэрскае абацтва. Працаваў Манэ ў звычайны лонданскі туманны дзень. На карціне Манэ гатычныя абрысы абацтва ледзь праступалі з туману. Напісана карціна выкшталцона.

Але калі карціна была выстаўлена, яна збянтэжыла лонданцаў. Яны былі ўражаны, што туман у Манэ афарбаваны ў барвовы колер, тады калі нават з хрэстаматый было вядома, што колер туману шэры.

Дзёрзкасць Манэ выклікала спачатку абурэнне. Але тыя, хто абураўся, выйшлі на лонданскія вуліцы, угледзеліся ў туман і ўпершыню заўважылі, што ён сапраўды барвовы.

Адразу ж пачалі шукаць гэтаму тлумачэнне. Пагадзіліся на тым, што чырвонае адценне туману залежыць ад мноства іскраў з фабрычных і пячных труб. Акрамя гэтага, такі колер надаюць цагляныя лонданскія дамы.

Але як бы там ні было, Манэ перамог. Пасля яго карціны ўсе пачалі бачыць лонданскі туман такім, якім яго ўбачыў мастак. Манэ нават празвалі "стваральнікам лонданскага туману"».

Так, сапраўды, літаратура і мастацтва пашыраюць звычайныя чалавечыя магчымасці, прапануюць новыя пункты гледжання, пазбаўляюць стэрэатыпаў, паўсядзённага, побытавага, надаючы новую каштоўнасць кожнаму імгненню жыцця, асаблівую прыгажосць таму, што дзень у дзень акаляе нас.

Так, М. Багдановіч перакладае верш Поля Верлена пра парыжскія туманы: «І не дае, каб штo-нібудзь, / Апроч туману, адбівала / Смяротна-жоўтая вада, / Хаця б ад золку чарада / Катэджаў чорна-жоўтых ззяла»… Вада, як і туман, смяротна-жоўтага колеру. Сімваліст Поль Верлен бачыў горад як тую сілу, што забівае непаўторнасць рэчкі, — і яе вада губляе натуральны «сіні» колер, набываючы колер «жоўты» — колер смерці. Так закоўваюць рэчку ў бетонны парапет, так знявольваюць чалавека бетонныя сутарэнні правілаў і распарадку. Так горад забівае непаўторнасць асобы, нівелюючы яе жыццё, саму яе сутнасць, уціскаючы ў пракруставa ложа агульнапрынятых норм. Таму туман і рэчка пад ім — жоўтага, смяротнага колеру. І, перакладаючы Верлена, М. Багдановіч асабліва балюча ўспрымае гэту паралель-супастаўленне: «асвяціла свечка з воску хлопца твар васковы»…

У М. Багдановіча такую выразную адметнасць маюць іншыя з'явы прыроды. Беларускі пясняр вучыўся глядзець і бачыць у французскага паэта, перакладаючы П. Верлена, наследуючы яму. Разам з тым ён меў уласны творчы пункт гледжання. Ён бачыць месяц: «срэбнымі рожкамі мглiцца з цёмных нябес маладзік», «ўвесь чырвона-жоўты», «месяц залаты», «бачыш: плыве маладзік цёмна-сіні», «у небе месяц ўстаў зялёны і хутка стане снегавым»…

Але ў адрозненне ад Верлена-дэкадэнта Максім Багдановіч — паэт-рэаліст. Ён наследуе паэтыцы імпрэсіянізму, але робіць гэта з мэтай пашырыць вобразна-выяўленчыя магчымасці рэалізму. Паэзіі, дзе аб'ектыўнай рэальнасцю з'яўляецца сама рэальнасць паэтычнага свету, што засталася ў спадчыну ад мінулага — «свайго» (нацыянальная спадчына) і «чужога» (спадчына іншых народаў), што праступае пад унікіяльным поглядам паэта, мастака.

Кожны твор пісьменніка-класіка — нямецкага, англійскага, французскага, беларускага — адкрывае перад чытачом новы свет, дае квіток у іншую рэальнасць, дзе звыклыя рэчы і з'явы паўстаюць у неверагодным абліччы, набываюць такое ззянне, якое нагадвае нам дзяцінства, вяртае ў свет, поўны дзівосаў і цудаў. Невыпадкова пісьменнікі, мастакі, а разам з імі перакладчыкі, літаратура- і мастацтвазнаўцы імкнуцца захаваць гэты свет, аднаўляючы яго наноў і наноў, пераствараючы ў арыгінальных працах, чытаючы чужое, паўтараючы, нібыта ўслед за амерыканцам Рэем Брэдберы: «Цуды і дзівосы», «Цуды і дзівосы» — і шэптам: «Перадай далей»…

100 год выдання зборніка «Вянок». Але гэта таксама 100-гадовы юбілей запавету: глядзець — і бачыць, глядзець — і разважаць, глядзець — і запамінаць тое багацце, што нясе жыццё. Жыццё ў творчасці. Жыццё, поўнае цудаў і дзівосаў, поўнае творчасці. Тым, што не мае выразнай каштоўнасці, але чыя каштоўнасць роўная каштоўнасці самога жыцця.

# Вернутая памяць

Як стрыечнай пляменніцы Барыса Мікуліча мне давялося быць непасрэднай сведкай яго жыцця ў вёсцы Цераховічы Лагойскага раёна. Там ён пасля 10-гадовага тэрміну зняволення не мог знайсці жытла, працы і ўмоў для творчасці, бо над ім усё яшчэ вісела кляймо «ворага народа».

**Тамара САКАЛОВА**

Адзіным спакойным месцам быў дом яго стрыечнага брата (майго дзеда па матчынай лініі) Вінцэся. Яго жонка, а мая бабуля, Анця вызначалася высакароднасцю, шчырасцю і душэўнасцю. Яна спачувала сіротам Барысу і Марыі, якія яшчэ падлеткамі часта гасцілі ў яе.

1947 — 1949 гг., час, які Барыс Мікуліч правёў у Цераховічах, помніцца мне вельмі добра. Тады я якраз жыла ў дзядулі з бабуляй. Яны і выхоўвалі мяне ажно да заканчэння школы, ад іх — мае лепшыя якасці. Мой бацька загінуў 10 красавіка 1945 года пры вызваленні Польшчы, а маці падчас вайны працавала ў падпольным шпіталі, дапамагала параненым савецкім салдатам, перапраўляла іх да партызан. Пра гэта ёсць сведчанні ў дакументальнай аповесці Аляксандра Захаранкі «Крыніцы не замярзаюць».

Дзядзька застаўся ў маёй памяці падцягнутым, сярэдняга росту (так мне здавалася), у пінжаку ў дробныя краткі гарадскога пакрою. Вясковцы такіх не насілі. Жыў ён у асобным пакоі, дзе яго наведвалі мясцовая інтэлігенцыя, родзічы, суседзі.

Пра свае жыццё ў Цераховічах і пра нашу сям'ю, у тым ліку і пра мяне, Барыс Мікуліч



Б. Мікуліч з пляменніцай Янай. Ашхабад, другая палова 1940-х гг.

згадвае ў «Аповесці для сябе». У іншым творы — «Жыццяпіс Вінцэся Шастака» — апісана жыццё дзядулі (імя ў героя — дзедава, а прозвішча — суседа), а праз яго паказана і жыццё народа напярэдадні Першай сусветнай вайны.

Пасля 10 гадоў зняволення Барыс Мікуліч дабіваўся рэабілітацыі, аднак ніхто не дапамог яму, не падтрымаў. Ён звяртаўся ў Саюз пісьменнікаў, якім кіравалі яго былыя калегі, але ўсе баяліся за сваё жыццё. У выніку пасля двух з паловай гадоў, праведзеных на радзіме, ён быў высланы на сталае месца жыхарства ў Сібір. Такім чынам, з 42 год



Б. Мікуліч з сястрой Марыяй Міхайлаўнай (злева) і цёткай Верай Антонаўнай (справа).

свайго жыцця 15 ён правёў у Сібіры, не дажыўшы 3 месяцы да рэабілітацыі.

Падчас другой яго высылкі (з 1949 г.) бабуля дасылала ў Сібір тварожныя клінковыя сыры. Каб яны не псаваліся, высушвала іх у печы. Пасля іх было цяжка нават размачыць, але Барысу яны былі дарагія як знак увагі, клопат родных.

Памятаю яго віншавальныя паштоўкі, лісты, у якіх ён пісаў: «И вечный бой. Покой нам только снится». Тое самае я пазней пісала сябрам, але ніхто мяне не разумеў. Бабуля Анця была непісьменная, таму лісты пісала я, пад дыктоўку. Адзін з іх, напісаны мной, 7-9-гадовай, на абрыўку паперы, Барыс захоўваў як рэліквію. На жаль, цяпер я не магу яго адшукаць.

Нам, родным Барыса Мікуліча, яго землякам-беларусам і сібіракам прыемна, што хоць і вельмі позна, але праўда перамагла. Імя пісьменніка пазбаўлена бруднага кляйма «ворага народа». Хацелася б, каб і яго творы атрымалі другое жыццё. Я вельмі рада, што зроблены пэўныя крокі па ўшанаванні памяці Барыса Мікуліча і ад імя ўсіх яго сваякоў хачу падзякаваць за адкрыццё музеяў там, дзе ён жыў, за клопат і працу тых людзей, з якімі ён сустракаўся ў сваім нялёгкім жыцці. Найперш выказваю словы падзякі загадчыцы Бабруйскай бібліятэкі № 4 Святлане Калюце за яе клопаты дзеля прысваення бібліятэцы імя Б. Мікуліча і адкрыцця музея пісьменніка; настаўніцы беларускай мовы Лагойскай СШ № 1 Веры Саўрыцкай за збор матэрыялаў і стварэнне музея; настаўніку гісторыі Машукоўскай школы Краснаярскага краю Міхаілу Захарцаву за працу па адкрыцці музея.

## Дзмітрый ПЯТРОВІЧ



* * *

*Застаюцца сябры*
*У скрыжалях зямных і нябесных.*
*І юнацтва растала,*
*Як лёгкі над хатай дымок.*
*Застаюцца сябры*
*Назаўжды…*
*Іх у снах бясцялесных*
*Сустракаем ізноў,*
*Бы святло, за якім — толькі змрок…*

* * *

Памяці Янкі Сіпакова

*Калі нарэшце кветкі*
*адцвітаюць,*
*Іх полымя згасае*
*назаўсёды.*
*Маленькія*
*часцінačкі прыроды*
*Ціхутка-незаўважна*
*паміраюць.*
*Але жывуць*
*у светлых успамінах,*
*У промнях шчодрых*
*сонечнага лета,*
*І ў веснавых пралескавых*
*разлівах,*
*І ў сэрцах нашых,*
*іх цяплом сагрэтых.*
*І восень ліставейную*
*вітаюць*
*Яны агнём*
*віхурна-светлавока.*
*Іх душы*
*пасля смерці*
*адлятаюць*
*У вырай —*
*жураўлінае далёка…*

* * *

*Гартаеш міжволі хвіліны,*
*гады…*
*І бачыш ты лічбы*
*на кожнай старонцы.*
*Калісьці дап'еш свой кілішак*
*да донца…*
*А ў кнізе жыцця*
*ты пакінуў сляды?..*

## Памяць

*Я так люблю тугі тваёй*
*палон,*
*Шчымліва-шчасны,*
*велічна-таемны,*
*Рэй успамінаў, —*
*лёгкіх, нібы сон,*
*І цяжкіх — тых,*
*каменна-непрыемных.*
*Тканіна лёсаў, як жыцця*
*паток —*
*«Уток-аснова» —*
*тчэцца павуцінна.*
*Глыточак свежы*
*памяці штуршок.*
*Вялікіх кроснаў рух…*
*Гучаць павінна*
*Малітва праўды,*
*вечнага жыцця,*
*Зямнога і нябеснага*
*цярпення…*
*Рэй успамінаў верне*
*з нябыцця —*
*Няхай на міг —*
*шчаслівыя імгненні…*

*…Я памяці сваёй люблю*
*палон…*

* * *

*Такое шчасце, што ты ёсць, юдоль*
*зямная,*
*Што паміраем-нараджаемся з зарой,*
*Што бэз цвіце у светлавейным маі,*
*Каханне ж — і асенняю парой.*
*Такое шчасце адчуваць сябе патрэбным*
*Сваёй зямлі, і дзецям, і бацькам.*
*І урадлівай будзе тая глеба,*
*Дзе кожны пакалак адчуе гэта сам...*

* * *

*Спіць пад белаю коўдрай*
*далёкая вёска мая.*
*Уецца стужкаю дым*
*па-над комінам некалькіх хат.*
*Уздымаючы рукі,*
*дубы ля дарогі стаяць,*
*Сустракаючы тых,*
*хто не вернецца болей назад…*

## Вера МІХНО



* * *

*Весялее наваколле,*
*На зыходзе ўжо зіма.*
*Нестабільнае такое*
*Пацяпленне, бы падман.*

*Ранне радуе. Дарога*
*Да вясны бяжыць сама.*
*Болю даўняга аблога*
*Разышлася, як туман,*

*Ды яшчэ не веру цалкам,*
*Што мароз не ўдарыць зноў.*
*Каб саграцца, крочу шпарка,*
*Аж пульсуе ў скронях кроў!*

* * *

*Яшчэ марозік лёдам гладзенькім*
*Зашкліў калюгі, зацягнуў,*
*А на вярбе, як перлы-пацеркі,*
*Святкуюць «коцікі» вясну.*

*Вясна выразна лес акрэсліла,*
*Нядзеля Вербная ідзе, —*
*Чакаю светлага ўваскрэсення*
*Хрыста, прыроды і надзей.*

## Дзявочая вясна

*Дорыць сонца залатое*
*Пацалункі-рабаціннe,*
*Крочу пругкаю хадою,*
*Хай зайздросцяць, як дзяўчыне.*

*Наўздагон раўчук імчыцца*
*Ды спрабуе заляцацца:*
*«Прыгажуня-маладзіца!*
*Прапаную прагуляцца».*

*Ветрык свежы, зухаваты*
*Шэпча нештачка на вуха.*
*Праўдзе да самай хаты*
*Ды прысвісне: «Маладуха!»*

*Адчуваю гэткім чынам,*
*Што вясну ў сабе нясу я.*
*Здатны кожную жанчыну*
*Красавік зрабіць красуняй.*

* * *

*Промні зморшчынак знянацку*
*«Упрыгожылі» жанчын.*
*Наша пругкае юнацтва*
*Адляцела ў далячынь.*
*Зноў сустрэць не давядзецца:*
*Шлях зваротны замяло…*

*А ў душы юнацтва б'ецца,*
*Быццам птушачка аб шкло!*

* * *

*Учора жанчына-крыніца*
*Сабой наталіла прагу,*
*А сёння ракою горнай*
*Закруціць раман, як вір.*
*І мусіць мужчына скарыцца,*
*Хоць мае ён моц і адвагу,*
*Бо ўзніме жанчына-мора*
*Шторм заўтра ў яго крыві.*

## З унукам

*Прыціскаю малое дзіця да грудзей —*
*Адчуванне ўзнікае такое,*
*Быццам час у зваротным кірунку ідзе, —*
*Праз гады буду зноў маладою!*



Фота Кастуся Дробава

## Вікторыя КУЗНЯЦОВА



***

*Летуценніца! Летуценніца!*
*Недасяжнымі жыву марамі,*
*Спадзяюся: штосьць пераменіцца,*
*Узлячу над шэрымі хмарамі.*

*Ах, як зорачкі ярка свецяцца!*
*Ну, вось-вось да іх дакрануся.*
*Як была дасюль летуценніцай,*
*Так да скону ёй застануся.*

***

*А ты чытаў мне вершы пра каханне,*
*Я слухала — ліліся словаў хвалі.*
*Ні ты, ні я тады не прадчувалі,*
*Што нам з табой прызначана*
*расстанне.*
*І вось яно — расстанне назаўжды —*
*Бядою горкай стала за плячамі,*
*Дыханне поўна смутку і*
*адчаю,*
*А я хачу назад, хачу туды,*
*У нашае апошняе*
*спатканне,*
*Дзе мы яшчэ не ведаем бяды,*
*Дзе ты чытаеш вершы пра*
*каханне.*

***

*Каханнем перапоўнена*
*душа,*
*У такт яму на скроні*
*жылка б'ецца,*
*А з сэрца, нібы з зорнага каўша,*
*На ўвесь, на ўвесь Сусвет пяшчота*
*льецца.*

*Як хораша мне разам быць з табой!*
*Твой голас слухаць, тоячы дыханне,*
*Зноў дакранацца да рукі рукой*
*І расставацца, і чакаць спаткання.*

*Няхай каханнем поўніцца душа,*
*Няхай ад шчасця замірае сэрца,*
*Няхай, нібыта з зорнага каўша,*
*На ўвесь, на ўвесь Сусвет пяшчота*
*льецца.*

***

*Я без цябе стамілася… Цяпер*
*Я гэта добра ведаю… Сумую…*
*Зноў слухаю начную цемру злую —*
*Здаецца, за сцяною ходзіць звер…*
*Скрабецца ў дзверы вострымі кіпцямі,*
*Ён злосна вые, жаласна скуголіць…*
*А сэрца зноў сціскаецца ад болю —*
*Як быць адной?*
*Як без цябе цяпер?*
*Даруй за недарэчнае пытанне —*
*Амаль ва ўсім сама я вінавата.*
*Якой была свавольнай і ўпартай,*
*А вынік — вось ён:*
*Страчана каханне...*

*А сэрца зноў сціскаецца ад болю —*
*Я без цябе стамілася… Павер…*

***

*Ізноў з сумненнем і трывогай*
*Гляджу, гляджу сабе ж на здзек:*
*Ах, я лічыла цябе Богам,*
*А ты — звычайны чалавек.*
*Ідуць гады, ляцяць імгненні,*
*Наяве бачу, а не ў сне:*
*Тваё сумненні і памкненні*
*Такія ж, як і у мяне.*
*Святая ісціна для міру,*
*Як насяліў Гасподзь зямлю:*
*Ды не ствары сабе куміра,*
*А я цябе ляплю, ляплю.*

*Сярод надзей, пакут, адчаю,*
*Сярод любові і трывог*
*Я з новай сілай адчуваю:*
*Ты для мяне — усё-ткі Бог.*



Ірына ЛЯВОНАВА

# Ананасы

*Апавяданне*

Сямён Пятровіч Каліцін назіраў, як дзяўчына за суседнім столікам з задавальненнем ела лустачку ананаса. Мабыць, ананас быў не вельмі спелы — юная асоба міла моршчыла носік і прыжмурвала вочы.

Каліцін уздыхнуў і паклікаў афіцыянта, каб замовіць яшчэ кубачак кавы. Жонка Сямёна Пятровіча, якая заўсёды адрознівалася пунктуальнасцю, гэтым разам пазнілася.

Да яго данеслася фраза дзяўчыны:

— Ты ведаеш, я вельмі люблю ананасы, але чамусьці ў нас яны рэдка бываюць салодкімі. Вось памятаю летась, калі мы былі на Гаваях, там іх столькі! І ўсе як адзін саспелыя. Я іх ела і ела, пакуль у мяне раздражненне ў роце не з'явілася.

Сямён Пятровіч перастаў прыслухоўвацца да размовы, таму што ў яго памяці нечакана, як фрагмент з фільма, паўстаў заснежаны Беларускі вакзал.

Тады яго, маладога супрацоўніка Міністэрства ўнутраных спраў саюзнай рэспублікі, накіравалі ў камандзіроўку ў сталіцу. Заданне ён атрымаў вельмі своеасаблівае. Напярэдадні паездкі выклікаў да сябе ажно сам першы намеснік міністра.

У прыёмнай, нягледзячы на вялікую колькасць уладальнікаў «зорак», якія сабраліся ў чаканні выкліку, усёведны ад'ютант Аляксандр Шчаглоў адразу ж адчыніў перад ім дзверы. Каліцін толькі-толькі хацеў аддаць чэсць, намміністра нецярпліва махнуў рукой і паказаў яму на крэсла перад сваім сталом.

— Я выклікаў менавіта вас, старшы лейтэнант, таму што ўпэўнены ў вашай прыстойнасці і адказнасці. Я ўважліва азнаёміўся з вашай справай, ды і так зямля чуткамі поўніцца. Вы ведаеце, як цяжка хворы наш Фёдар Сцяпанавіч? (Так звалі міністра.)

Каліцін моўчкі кіўнуў.

— Дык вось, для таго каб ён пайшоў на папраўку, урачы рэкамендавалі яму есці як мага больш ананасаў. Д'ябал зразумее гэтых медыкаў! Па мне карысней, чым яблыкі, садавіны няма.

Ён уздыхнуў і звярнуўся да Каліціна:

— Чаму ў цябе змяніўся твар? Што цябе здзівіла?

— Вядома, добра, калі яны дапамогуць Фёдару Сцяпанавічу, — адказаў Сямён, — толькі дзе ўзяць гэтыя самыя ананасы, таварыш генерал?

— Дзе ўзяць? Чорт ведае што там адбываецца, у гэтай Афрыцы! Як назло, не паступаюць яны ў апошні час да нас на спецхарчаванне. Паедзеш у Маскву. Там яны павінны быць. За дзень, думаю, справішся. Білет і камандзіровачнае пасведчанне возьмеце ў капітана Шчаглова. Ідзіце, старшы лейтэнант. На вас уся надзея.

...Цягнік прыбыў у Маскву ў восем раніцы па сталічным часе.

Сямён Пятровіч не стаў спускацца ў метро, а хутка пайшоў па вуліцы Горкага, накіроўваючыся напрамую да Елісееўскага магазіна. Лістападаўскі марозік пяшчотна пашчыпваў шчокі. Ад ранішняй чысціні тратуараў цэнтральных вуліц, якія яшчэ поўнасцю не прачнуліся, настрой Сямёна Пятровіча быў прыўзнятым.

Не чакаючы адкрыцця магазіна, а абмінуўшы яго вугал, накіраваўся ў двор, дзе ўбачыў жалезныя вароты, і, калі заўважыў, што тыя прачыненыя, увайшоў унутр.

Вялікі двор быў пусты. Толькі за вуглом, на скрынях ад садавіны, сядзелі некалькі грузчыкаў і курылі.

— Дзень добры, — павітаўся ён.

— Здароў, здароў, — адказаў пажылы мужчына шчыльнага целаскладу. Астатнія прамаўчалі.

Заўсёды ў такіх суполках ёсць дзядзькі Васі і дзядзькі Пеці, якія «за галоўных», і ёсць Санькі, Каляны, якія з-за сваёй маладосці на пасылках.

— Хлопцы, можна з вамі пасядзець, пакуль магазін адкрыецца. А то я адразу з цягніка, нікога і нічога тут не ведаю.

Пажылы мужчына паціснуў плячыма.

Каліцін прысеў і праз хвіліну сказаў:

— Паслухайце, а чаго гэта мы так сядзім? Давайце, можа, па «маленькай», — і ён дастаў кашалёк.

Грузчыкі ажывіліся.

Санёк па ўказанні старэйшага пабег кудысьці ўглыб падсобных памяшканняў і вынес пару «фугасаў» з пладова-ягадным вінам, прадбачліва прыхапіўшы шклянкі.

Пагаварылі пра сёе-тое — і віна як не было.

Сямён Пятровіч піў нароўні з усімі. Інакш і быць не магло. За «выпендраж» не стаў бы для іх сваім.

Ён зноў дастаў кашалёк пад ухвальныя погляды новых знаёмых. Санёк кінуўся і прынёс яшчэ тры бутэлькі тых жа самых «фугасаў».

— А я гляджу, ты мужык правільны, — звярнуўся да яго старэйшы. — Табе, можа, чаго трэба? Дык кажы, не саромейся.

— Мужыкі, вы мяне прабачце, але я да вас сапраўды па дапамогу прыйшоў. Мне хоць бы парачку ананасаў, — папрасіў ён.

Старэйшы паківаў галавой:

— Вось чаго няма, таго няма. Месяц як не атрымлівалі, а то і больш. Бяры бананы, апельсіны.

— Не, мне гэтага не трэба. Ну, можа, хоць дзе-небудзь парачка іх завалялася.

Разгарачаны ад выпітага і ад гэтага нейкі дужа крыўдлівы, старэйшы звярнуўся да Санькі:

— Ідзі і пакажы гэтаму недаверліваму ўсе халадзільныя камеры і па ўсіх закутках правядзі. Хай на свае вочы пераканаецца.

Яны спусціліся ў велізарны падземны горад, пра памеры, якога Каліцін нават не падазраваў. З пакрыўджанай гонарам за ўсіх грузчыкаў краіны, малады рабочы добрасумленна паказваў памяшканні, дзе маглі знаходзіцца заморскія далікатэсы.

Калі выйшлі на свежае паветра, Сямёна Пятровіча запыталіся:

— Ну што, пераканаўся?

— Пераканаўся, мужыкі. Не крыўдуйце, але так мне трэба гэтыя ананасы.

— Чаго крыўдаваць? Дзякуй табе за пачастунак, як будзе што трэба — заходзь.

Моцна паціснуўшы ўсім рукі, Каліцін выйшаў за вароты.

На гадзінніку быў пачатак дзясятай, і ён вырашыў паспытаць шчасця ў самога дырэктара магазіна.

Яго прыняў мужчына гадоў пяцідзесяці, прыемнай знешнасці. Паглядзеў на пасведчанне і застаўся ўсё ў ранейшым бесклапотным настроі.

— Так, тэлефанавалі, тэлефанавалі. Памятаю, але, на жаль, нічым не магу дапамагчы.

Сямён Пятровіч верыў яму. Ведаў, што той казаў праўду, але і не выканаць даручэнне не мог.

— І што мне цяпер рабіць? Вы ж зразумейце: як я людзям у вочы пагляджу? Не паверацт, што ў самой Маскве не было!!! — з адчаем усклікнуў ён.

Дырэктар паглядзеў на яго і сказаў:

— А ведаеце што? Дам я вам адрасок адной дамы, яна тут непадалёк размясцілася, — ён усміхнуўся, — яе вокны насупраць Крамля. Думаю, што зможа вам дапамагчы. Завуць яе Ларыса Іванаўна, толькі не кажыце, што вы ад мяне. Вельмі яна наравістая асоба.

Калі Каліцін стаў рассыпацца ва ўдзячнасці, умудроны жыццём кіраўнік гандлю перапыніў яго словамі:

— Усе мы людзі і ўсе там будзем.

Каліцін хутка знайшоў Ларысу Іванаўну, кантора якой і сапраўды знаходзілася насупраць Крамля, у двух невялікіх пакоях паўпадвальнага памяшкання.

За вялікім сталом у адным з іх і сядзела мілавідная жанчына няпэўнага ўзросту. Спярша Сямён Пятровіч паказаў ёй пасведчанне і нагаварыў кучу кампліментаў, затым выклаў сваю просьбу.

Ларыса Іванаўна ўсміхнулася:

— Сярод вашых скорагаворак я так і не зразумела, хто вас да мяне накіраваў. Ды пастараюся ўжо вам дапамагчы. Птушка вы паднявольная, таму па-чалавечы, калі ёсць магчымасць, чаму б не аказаць паслугу.

Яна нахмурылася:

— Але б прыехалі вы на два дні раней! Я толькі-толькі пазаўчора аддала шэсць штук у рэстаран гасцініцы «Расія». Пазваню, можа, на ваша шчасце, іх яшчэ ніхто не з'еў.

Хоць Каліцін па сваім выхаванні і перакананнях быў заўзятым атэістам, у гэтую хвіліну ён заклікаў душы ўсіх святых, каб хтонебудзь з іх дапамог, пачуўшы яго.

— Вітаю цябе, Сцяпан Васільевіч, — завуркатала ў трубку яго выратавальніца, — пра справы пытацца не буду. Ведаю, і так усё ў парадку. Паслухай, у цябе яшчэ засталіся тыя ананасы, якія я табе на днях адгрузіла? А чаго ты крычыш? — злосна спытала яна. — Ніхто ў цябе нічога не адбірае і ні ў чым цябе не абвінавачвае. Вырашыў так зрабіць, — ну і малайчына. Будзь здаровы, потым перателефаную.

Жанчына долю секунды глядзела ў акно, потым звыклым жэстам адкінула пасму светлых валасоў з ілба і паглядзела на Сямёна Пятровіча:

— Разумееце, малады чалавек (па яе інтанацыі той адчуў, што ўсё прапала, і сэрца яго гулка застукала), — ананасы спачатку ў мяне ляжалі незапатрабаванымі больш як тыдзень, а потым яшчэ і ў рэстаране. Сталі ўжо трохі падгніваць, вось Сцяпан Васільевіч і распарадзіўся іх на порцыі парэзаць. Так што іх цяпер пастаяльцы ядуць і, як ён кажа, неахвотна.

— Дзякуй вам вялікі, — пачаў Каліцін, прыўздымаючыся з крэсла, але Ларыса Іванаўна яго абарвала:

— Кажаш, што вельмі добры чалавек гэты твой начальнік Фёдар Сцяпанавіч?

— Вельмі! — з запалам усклікнуў Сямён Пятровіч. — Ён і на фронце ваяваў, і за хлопцаў нашых заўсёды гарой. Ніколі дрэннага слова без справы не скажа, не тое што некаторыя.

— Сядзі ўжо. Паспрабую яшчэ ў адно месца патэлефанаваць.

— Ганначка, вітаю цябе. Тут у мяне такая справа здарылася. Трэба дапамагчы аднаму вельмі прыемнаму маладому чалавеку. Яго да нас з суседняй рэспублікі прыслалі. Я яму зараз трубку перадам, ён табе ўсё сам і раскажа.

Перадаючы тэлефон, яна дадала:

— Яе Ганна Іванаўна завуць.

Сямён Пятровіч, як толькі мог, пачаў гаварыць ёй кампліменты.

На тым канцы провада засмяяліся.

— Не вешай трубку. Зараз патэлефаную ў адно месца. Але калі ўжо там няма, дык ва ўсёй краіне наўрад ці будзе.

Ён чуў толькі адгалоскі гутаркі: «Зразумела… можа, паспрабуйце… шкада».

Калі голас Ганны Іванаўны зноў загучаў у трубцы, Каліцін зразумеў, што яму не пашанцавала і гэтым разам.

— Нічым, на жаль, не магу дапамагчы.

— Вялікі вам дзякуй, — пачаў ён, але, відаць, у яго голасе гучала столькі адчаю, што на тым канцы тэлефоннага провада сказалі:

— Бяры ручку і запісвай. Толькі ўлічы, ты мяне не ведаеш, а ўжо адкуль узяўся гэты нумар тэлефона ў цябе, думай сам.

Сямён Пятровіч радасна заківаў галавой, хоць Ганна Іванаўна не магла бачыць.

— Запісаў? Добра. Удачы табе.

— Ларыса Іванаўна, — узмаліўся ён, — дазвольце зрабіць яшчэ адзін званок?

— Звані, што ўжо з табой зробіш.

Прагучала некалькі гудкоў, трубку паднялі, і было сказана толькі два словы: «Вас слухаюць», — але такім тонам, што Каліцін адразу зразумеў, у якую ўстанову ён трапіў, і халодныя мурашкі страху папаўзлі ў яго па скуры.

— Я Сямён Пятровіч Каліцін, прыбыў па даручэнні, — і ён назваў самае высокае ў такой жа былой, як і іх, рэспубліцы прозвішча.

— Пачакайце, — сказалі на тым канцы провада.

«Правяраюць, напэўна, ці праўду я кажу», — мільганула ва ўзбуджанай свядомасці.

— Такім чынам, выкладзіце вашу просьбу, — відаць, пераканаліся ў тым, што ён казаў праўду.

Сямён Пятровіч, як чалавек у пагонах, коратка і выразна выклаў праблему, па якой прыбыў у сталіцу.

— Пачакайце, — зноў адказалі яму, і на некаторы час у трубцы запанавала цішыня.

Ён сціскаў трубку без усялякай надзеі, а проста ад таго, што быццам няёмка было апусціць яе на рычаг.

— Вы слухаеце? — пачуўся ўсё той жа голас.

— Слухаю.

— Ды ў нас ёсць два ананасы, але яны прызначаны для самога... Вы разумееце, пра каго я кажу?

— Так, разумею.

— Мы ж з вамі не будзем пазбаўляць яго задавальнення? Вы са мной згодныя?

— Канечне, — адказаў Сямён Пятровіч.

— Гонар маю, — і ў трубцы загучалі частыя гудкі адбою.

— Гонар маю, — паўтарыў Каліцін.

— Дзякуй вам вялікі, Ларыса Іванаўна. Я ваша імя і імя Ганны Іванаўны ніколі ў жыцці не забуду.

— Забудзеш, усё жыццё ў цябе наперадзе. Столькі яшчэ ўсякіх Іванаўнаў сустрэнеш, — сказала яна, працягваючы руку на развітанне.

Ларыса Іванаўна памылілася. Столькі гадоў прайшло, а ён памятае не толькі іх імёны, але і інтанацыі голасу.

Тады, ідучы па вуліцы, яму хацелася плакаць. Аднак ён не мог сабе дазволіць гэтую слабасць. Яму было дваццаць пяць гадоў — дарослы мужчына, прытым на службе, дзе ўсялякія сантыменты недаравальныя.

Сямён Пятровіч ішоў, і толькі адна думка ўвесь час, не перастаючы, трывожыла яго і без таго ўзбуджаную свядомасць.

«Як гэта так, — пытаўся ён у сябе самога, — такая велізарная краіна, чаго толькі ў нас няма: і нафта, і золата, і алмазы. І ўсім мы дапамагу аказваем. Ды вазьмі хоць гэтую Афрыку! Там гэтых апельсінаў і бананаў, як у нас гразі. І шлём жа туды ўсё без перадышкі, — а адтуль — адны абяцанні. Стратэгі, маць іх... А хворым людзям, дзеткам са старымі толькі і радасць, што ўвосень абхазскія мандарыны есці ды на свята нейкі кілаграм апельсінаў атрымаць. За што і чаму?»

На гэтае пытанне яму адкажуць праз некалькі дзесяцігоддзяў, але ўжо іншыя людзі і не тую праўду, якую ён ведаў сам і хацеў пачуць, а тую праўду, якая была зразумелая ім і якую яны лічылі самай правільнай праўдай, гэта значыць зручнай для іх.

І вось цяпер Сямён Пятровіч чакае сваю жонку, каб адправіцца ў госці да даўняга сябра Ільі Равіковіча, які праз дваццаць гадоў упершыню прыехаў у родны горад. Сярод старых сяброў і таварышаў па службе пад чарачку і ўспаміны пра «жахі» савецкай рэчаіснасці ён і раскажа гісторыю пра ананасы. Але чаму тыя «жахі» так салодка ўспамінаюцца ў іх інтэрнацыянальнай кампаніі?

Можа, таму, што ўсё, што адбывалася з ім, прыйшлося на лепшыя гады іхняга жыцця?

— Даўно чакаеш? — пачуў ён голас жонкі і вярнуўся з праблем мінулых гадоў у дзень праблем сучасных.

А Фёдар Сцяпанавіч памёр праз тыдзень пасля вяртання маладога супрацоўніка з камандзіроўкі. Ананасаў ён так і не паеў...

**Пераклад з рускай Алеся МАРЦІНОВІЧА**

# Будучыня — за чалавекам адказным

Падчас наведвання Мінска дэлегацыя расійскіх творцаў, якія ачольваюць уплывовыя літаратурныя выданні Расіі, завітала ў рэдакцыю газеты «Літаратура і мастацтва». Іх меркаванні прапануюцца вашай увазе.



**Аляксандр КАЗІНЦАЎ, першы намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Наш современник»**

**— Што новага чакае аматараў беларускай літаратуры ў вашым часопісе?**

— Мы ўжо дзевяць разоў выпускалі снежаньскі нумар, прысвечаны Беларусі. А дзясяты, юбілейны, па просьбе Пасткама Саюзнай дзяржавы мы прымяркуем да Дня незалежнасці Беларусі. Гэтую паездку я выкарыстоўваю, каб сабраць матэрыялы: атрымаў апошнія нумары «Нёмана», пагутарыў з беларускімі пісьменнікамі... Упэўнены, што гэта будзе дастойны выпуск. Тым больш, беларуская літаратура дынамічна развіваецца. За гэты час мы надрукавалі больш як семдзесят аўтараў. «Наш современник» першы па падпісцы ў Расіі, так што шырокі рускі чытач штогод знаёміцца з прадстаўнічым колам беларускіх творцаў.

**— А хто з гэтых сямідзесяці для вас — самыя любімыя?**

— Алесь Савіцкі. Я люблю яго і як пісьменніка, і як чалавека. Камусьці гады — пакаранне, а яму — узнагарода. Гэта вельмі прыгожы чалавек — і духоўна, і фізічна. Магчыма, людзі, якія прайшлі вайну, зробленыя з іншага матэрыялу, а можа, яны проста больш правільна распарадзіліся ўласным жыццём. Я заўжды раўняюся на Алеся Ануфрыевіча. Вельмі люблю вершы Міколы Мятліцкага, яго беларускую мову, якае патыхае для мяне водарам сялянскага хлеба. Люблю і заўжды з захапленнем чытаю прафесара філасофіі з Гродна Чэслава Кірвеля, мы далі яму, дарэчы, «Залатога Віцязя». У спаборніцтве лепшых розумаў свету, я лічу, ён выдатна прадстаўляе Беларусь. Апошнім часам адкрыў для сябе вельмі цікавага гістарычнага пісьменніка Якава Аляксейчыка. Калісьці ён займаў высокія пасады, што дазваляе яму цяпер выкарыстоўваць напоўніцу свой дар публіцыстычнага «вогненнага» слова. Я мог бы яшчэ доўга пералічваць...

**— Але калі казаць пра сучасную літаратуру, беларускую і рускую, у чым вы бачыце іх унутранае падабенства і адрозненне?**

— На жаль, мне цяжка гаварыць пра літаратуру сёння як пра агульнанацыянальную з'яву. У Расіі, на маю думку, літаратуры як адзінай з'явы даўно няма — ёсць выбітныя пісьменнікі, эпохі, якія сыходзяць, — Распуцін, Бялоў... Творцам, якія яшчэ нядаўна лічыліся «сярэднім пакаленнем», сёння ўжо па семдзесят. Ёсць мае равеснікі, тыя, з кім я працаваў і працую. З маладых мая «любоў» — Захар Прылепін, вельмі таленавіты аўтар, якога я ведаю даўно, калісьці даваў яму парады... Але ўсё гэта — асобныя постаці, у іх адсутнічае агульны дзельнік. Сярод беларускіх аўтараў мне бліжэй стрыманая, камерная псіхалагічная проза Алеся Бадака, у якой няма «разборак» у стылі расійскага жыцця. Мне падаецца, гэта магло б стаць той азнакай, якая можа адрозніваць усю сучасную беларускую прозу ад вірлівааэмацыянальнай расійскай.

**— Што б вы хацелі ўбачыць у будучым нашых літаратур? Якіх аўтараў ці твораў нам не хапае сёння?**

— Ці можна запраграмаваць пісьменніка? Ён скажа сваё слова, не зважаючыся з нашымі прагнозамі. Але я мяркую, што будучыня — за чалавекам адказным. Просты прыклад: ад памылкі аператара на АЭС залежаць лёсы мільёнаў, ад памылкі машыніста цягніка — сотні людзей і г. д. Сучасныя тэхналогіі даюць чалавеку высокія магчымасці, але і павышаную адказнасць. Я б сказаў, што за свае ўчынкі мусіць адказваць любы чалавек. І паказаць гэтага чалавека будучыні, не гучнага, не пафаснага, без якога, паводле Андрэя Платонава, «народ не поўны», — вось гэта і ёсць задача літаратараў будучыні.



**Уладзімір БЯРАЗЕЎ, галоўны рэдактар часопіса «Сибирские огни»**

**— Уладзімір Аляксеевіч, «ЛіМ» ужо знаёміў чытачоў з вашым часопісам, у якім нярэдка можна пабачыць і беларускія імёны. Ці не плануеце вы зрабіць адмысловы «беларускі нумар» па выніках новай сустрэчы з нашай пісьменніцкай грамадой?**

— Сапраўды, пры падтрымцы часопіса «Нёман» і Федэратыўнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Расіі» мы запланавалі пазачарговы ненумарны спецыяльны беларускі выпуск часопіса. Я думаю, гэта будзе вельмі цікава. Зробім мы яго на працягу бліжэйшых трох месяцаў.

**— Ці змяніліся вашыя асабістыя адносіны да беларускай літаратуры з таго часу, як вы пачалі чытаць яе, публікаваць у «Сибирских огнях», сустракацца з беларускімі пісьменнікамі?**

— У мяне яшчэ з перыяду вучобы ў Літаратурным інстытуце склалася вельмі прыязнае стаўленне да беларускай літаратуры. З часам яно толькі ўмацавалася, дзякуючы таму, што ў ёй прысутнічае пэўны кансерватызм, прывязанасць да традыцый, зварот да мінулага. Гэта адметнасць, як мне падаецца, усіх беларусаў, іх ладу жыцця, духу. А ва ўмовах сучаснага глабальнага свету якраз гэта падаецца мне надзвычай пазітыўным. Гэта зберагае мову — аснову нацыянальнай самабытнасці. Літаратура без нейкага адкрыцця, якое ёсць у мове, не мае сувязі з нябёсамі. З самых першых тэкстаў, ад Скарыны, гэта было ўласціва беларускаму пісьменству. Я веру ў будучыню беларускай літаратуры. Аднак не трэба забывацца і пра тое, што без адкрытасці да іншых — моў і літаратур — ёсць небяспека застацца замкнёнымі ў самім сабе. Хаця пра беларускіх аўтараў, якія друкуюцца ў часопісе «Сибирские огни», можна сказаць, што яны разумеюць неабходнасць гэтай адкрытасці, якая дазваляе весці размову пра выхад за межы вузканацыянальнага «акалотку».

**— Наколькі руская літаратура сёння ўплывае на беларускую і ці магчымы адваротны працэс, у тым ліку і дзякуючы вашаму выданню?**

— Калі публікаваўся ў Расіі вялізнымі тыражамі Васіль Быкаў, значыць, такі ўплыў адназначна існуе. Можна згадваць тут іншых магутных беларускіх пісьменнікаў. Асабліва паказальны сёння прыклад Алены Брава: яе творы сталі шырокавядомымі ў нас пасля публікацыі ў «Сибирских огнях». Я ўпэўнены, што хутка яна набудзе статус еўрапейскай пісьменніцы. А я рады, што мы адкрылі яе расійскаму чытачу.

**— Ці можа літаратура сёння паўплываць на стан грамадства, змяніць жыццё народа?**

— Магчыма, я не маю рацыі, але мне заўжды здавалася, што не дай Бог, каб літаратура ўплывала на дзяржаўны лад... Тое, што дзекабрысты «разбудзілі» Герцэна, а той разгарнуў рэвалюцыйны рух, — гэта спекуляцыя! Насамрэч творы Пушкіна, Гогаля, Лермантава, Дастаеўскага, Ляскова, Талстога — тое, за што нас шануюць па ўсім свеце, — заклікаюць найперш да таго, каб зазірнуць ва ўласнае сэрца, падумаць пра сэнс свайго існавання. Гэта адзінае прызванне літаратуры, на маю думку!



**Алесь КАЖАДУБ, намеснік галоўнага рэдактара «Литературной газеты»**

**— Алесь Канстанцінавіч, не так даўно вы сталі лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя А. Дэльвіга. Чым гэтая прэмія адрозніваецца ад іншых у Расіі?**

— Гэта прэмія «Литературной газеты», і пачынаючы з мінулага года яе статус значна павысіўся. Цяпер прысуджаюцца тры залатыя (мільён расійскіх рублёў) і шэсць сярэбраных «Дэльвігаў» (паўмільёна расійскіх рублёў). Акрамя іх ёсць яшчэ спецыяльныя прэміі, мая — «За паляпшэнне беларуска-расійскіх стасункаў у літаратуры». Летась, дарэчы, было вельмі шмат рукапісаў — з Расіі, Беларусі. Разглядае іх кампетэнтнае журы, вылучаючы «доўгі» і «кароткі» спіс (беларусы, дарэчы, сюды таксама трапляюць). Прэмія набывае аўтарытэт, бо імкнецца выйсці за межы Масквы.

**— У Расіі ўжо даволі шмат літаратурных прэмій, але ці трэба іх столькі? Ці варта імкнуцца адзначыць усіх, хто піша?**

— Гэта з якога боку зірнуць. Канечне, для пісьменнікаў — чым больш, тым лепш. Нельга забывацца, што гэта яшчэ і спосаб падтрымаць творцу матэрыяльна. Іншая справа, што «Литературная газета» зараз зацята змагаецца з Агенцтвам па друку, якое мае пэўнае кола «кандыдатаў», якія пераходзяць з прэміі ў прэмію, атрымліваючы ўсё, што можна. Часцяком гэта людзі, якія даўно жывуць за межамі Расіі і пра Радзіму ў сваіх творах не надта добра адгукаюцца. А мы імкнёмся, каб Прэмія Дэльвіга была агульнарасійскай, каб яе атрымлівалі не толькі маскоўскія аўтары.

**— Ці падтрымліваеце творчую моладзь?**

— Так. Ёсць нават тры асобныя намінацыі «Дэльвіга» для маладых пісьменнікаў. Акрамя таго, мы разумеем, што для моладзі найбольш важна — месца публікацыю. У «Литературной газете» ёсць нават асобны праект — штомесяц мы выпускаем паласу «Літаратурны рэзерв», дзе змяшчаюцца творы 10 — 15 аўтараў, прычым абавязкова прадстаўляем маладую літаратуру расійскай глыбінкі. Я лічу, што моладзь абавязкова трэба друкаваць!



**Валерый КАЗАКОЎ, пісьменнік, кіраўнік Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Расіі»**

**— Наколькі пісьменнікі павінны быць далучаны да палітычных працэсаў яднання дзвюх краін? І якое ваша стаўленне да свята?**

— Для мяне Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі — гэта кропка адліку. Святам я яго не лічу. Бо свята нараджаецца не адразу. Павінен прайсці нейкі час. Але ж кропка адліку існуе. І існуе Саюзная Дзяржава, пэўныя інстытуты. Галоўнае, што адбылося: людзі перасталі бачыць мяжу.

Вельмі прыемна, што сённяшні дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Рыгор Рапота ўсё больш глядзіць на грамадскія аб'яднанні, грамадскія стасункі паміж Расіяй і Беларуссю.

Выдатна таксама, што ў Дзень яднання мы збіраемся за «круглым сталом», дзе — і гэта ўпершыню! — галоўным пытаннем з'яўляецца літаратура, прычым літаратура, якая ўплывае на думкі беларусаў і расіян. Што робяць пісьменнікі, каб нацыі збліжаліся, людзі збліжаліся, станавіліся добрымі суседзямі, партнёрамі. Ведаеце, у Расіі класічная літаратура ўвогуле выведзена з ліку абавязковай, і на экзаменах уступных гэтага прадмета няма. Разбурана тое, што ляжыць у падмурку нацыі.

**— Дык ці павінен быць дзяржзаказ на літаратуру?**

— Калі пісьменнік патрэбен дзяржаве, ёсць падтрымка з яе боку, ёсць палітыка ў адпаведнай галіне. Літаратура — не тое, што прыйшло ў галаву, а ты напісаў. Гэта яшчэ і майстэрства, талент. Не трэба парткамаў, якія будуць трымаць за руку і казаць: пішы так ці інакш. Каб у дзяржавы быў добры народ, сапраўдны патрыёт, руплівы, літаратура неабходна — без яе не будзе чалавека. Мы можам спрачацца наконт электронных ці папяровых выданняў, але ад гэтага яна не страчвае сваёй значнасці — прачытаеш ты нешта ў кніжцы ці інтэрнэце. Літаратура павінна быць, павінны быць пісьменнікі, і дзяржзаказ павінен быць, і адэкватны адказ дзяржавы на працу пісьменнікаў…

**— Каб прыйсці да рускага чытача, беларускаму аўтару неабходна ці пісаць па-руску, ці перакладацца.**

— Прыйсці ў сусветную літаратуру можна толькі з англійскай мовай, а прыйсці да чытача з постсавецкай прасторы — з рускай.

**— Ці не будзе гэта адмаўленнем ад нацыянальнага?**

— Свет ідзе па шляху ўніфікацыі, глабалізацыі. І нікуды мы не дзенемся. А адна з задач дзяржавы — навучыць свайго грамадзяніна быць нацыянальна ідэнтыфікаваным. Адсюль, калі мы патрыёты сваёй дзяржавы, мы павінны захоўваць сваю культуру, мову, літаратуру. Але мы не павінны замыкацца толькі ў сабе і казаць: гэта лепшая мова. Калі замкнёмся, будзем сядзець, нікому не патрэбныя. Таму мы павінны развіваць сваю нацыянальную культуру, літаратуру, але не цурацца перакладаў на іншыя мовы.

**Таццяна СІВЕЦ,**
**Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА**

## Да 60-годдзя часопіса «Маладосць»

З гэтага нумара «ЛіМ» пачынае друкаваць серыю матэрыялаў, прысвечаных юбілею выдання. Прадстаўлены ніжэй урывак гутаркі Святланы Дзянісавай з Уладзімірам Гніламёдавым узяты з кнігі «Скрозь “Маладосць”», выхад якой чакаецца ў бліжэйшы час.

# Актуальная размова пра мінулае




Фірменны канверт.



У час, калі стваралася «Маладосць», чыталі ўсе.

**— Як вам успамінаецца першая сустрэча з «Маладосцю» — часопісам і рэдакцыяй?**

— Я пачынаў чытаць «Маладосць», калі вучыўся ў школе, у дзявятым класе. Часопіс прыходзіў у нашу бібліятэку, я заўсёды яго браў і гартаў з вялікай цікавасцю. Бо ён патыхаў свежасцю, нават пры тым, што на старонках яго друкаваліся не толькі маладыя — Барадулін, Караткевіч, Вярцінскі, Сіпакоў. На гэтых старонках заўсёды друкаваліся і прадстаўнікі больш сталага пакалення: Якуб Колас — ён тады яшчэ жыў, Міхась Лынькоў, Пятро Глебка, Пятрусь Броўка, потым — маладзейшыя Брыль, Шамякін, Кулакоўскі…

Аляксей Кулакоўскі быў першым галоўным рэдактарам «Маладосці». Я помню яго, гэта быў цікавы пісьменнік і чалавек, франтавік, сам па сабе надзвычай мяккі, разважлівы, удумлівы. Што асабліва цікава, на фронце ён камандаваў ротай штрафнікоў. Гэта мяне дзівіла. А можа, у тым якраз і ёсць логіка: такі чалавек, магчыма, быў болей прыдатны для такой пасады і ролі. Але… Патрабаванні да літаратуры тады вызначаліся чым? Тым, што сёння мы ганім, і часта заслужана, што ў прамым сэнсе дэзарыентавала мастацкую творчасць, — сацрэалізмам. Калі дарога вызначана, то майстар слова павінен па ёй ісці прама, не зварочваючы ні ўправа, ні ўлева. І калі Кулакоўскі адхіліўся ад гэтага кірунку, напісаўшы аповесць «Дабрасельцы», яго проста звольнілі. Але ж працягну адказваць на пытанне.

Я не так ужо і блізка быў знаёмы з літаратурным жыццём і пісьменнікамі, але ў мяне склалася ўражанне, што рэдакцыя «Маладосці» — гэта вельмі жывы калектыў вельмі добрых людзей, настроеных да цябе не тое каб спачувальна, але з жаданнем — зразумець, адчуць, дапамагчы, падказаць. Асабліва такое ўражанне стварала Вера Палтаран. У мінулым журналістка, публіцыст і крытык, яна працавала ў адным аддзеле з Уладзімірам Юрэвічам. А ўвогуле, уся рэдакцыя жыла, скажам так, адным духам і працавала ў адным кірунку: вітала

> *«Патрабаванні да літаратуры тады вызначаліся чым? Тым, што сёння мы ганім, і часта заслужана, што ў прамым сэнсе дэзарыентавала мастацкую творчасць, — сацрэалізмам. Калі дарога вызначана, то майстар слова павінен па ёй ісці прама, не зварочваючы ні ўправа, ні ўлева.*

цудоўную літаратуру — шырокую ў тэматычных абсягах і новую ў падыходах да жыцця. Тады, дарэчы, літаратура вельмі зближала чытачоў і пісьменнікаў. Узяць хаця б прыклад Сяргея Грахоўскага, які напрасіўся ў камандзіроўку на полацкі аўтабуд і жыў там з будаўнікамі ў адной палатцы, так бы мовіць, інкогніта, не прызнаючыся нікому, што ён на самай справе пісьменнік, які трымае за мэту паназіраць за жыццём і напісаць нейкі нарыс ці яшчэ што. Ён урэшце і напісаў нарыс, але жыў і працаваў на гэтым сваім часовым месцы, як усе. Літаратура тады жыла вялікай цікавасцю да жыцця і тых змен, што ў ім адбываюцца. Яна ўглядалася ў жыццё.

**— І тагачасныя наклады «Маладосці» сёння гучаць фантастычна… Чым гэта, дарэчы, можна тлумачыць: тым, што не ў кожнай хаце быў тэлевізар, ці большай духоўнасцю?**

— Тады людзі ўвогуле любілі чытаць. Масквічы, напрыклад, чыталі і ў трамваях, і ў метро, на эскалатары — не адрываючыся, не звяртаючы ўвагі ні на што: яны былі ў гэты час там, у свеце кнігі! Вядома, тэлебачання тады яшчэ амаль не было: нават у горадзе тэлевізар меўся далёка не ў кожнай кватэры, а ў вёсцы дык і ўвогуле не ведалі пра яго, бо і радыё не ўсюды было праведзена. Таму людзі ахвотна падпісваліся на перыядычныя выданні.

Іван Шамякін неяк надрукаваў у «Маладосці» аповесць «Ах, Міхаліна, Міхаліна» — пра вясковую замужнюю настаўніцу, якая закахалася ў настаўніка-халасцяка. І так гэта аповесць захапіла і зацікавіла, так шмат выклікала дыскусій, што пісьменнік аб'ездзіў школы і інстытуты па ўсіх абласцях. Такі поспех меў не толькі Шамякін, але і іншыя пісьменнікі. Мо і праўда, прага духоўная тады была большай?.. Гэта была пара адлігі, калі нанова адкрываўся свет…

**— І невялікі час прайшоў пасля вайны. Людзі яшчэ не ўтаймавалі жаданне атрымліваць асалоду ад кожнага мірнага дзеяння, у тым ліку і чытання. Напэўна, так…**

— І вось што яшчэ. Нягледзячы на жорсткія патрабаванні сацрэалізму, адбываліся ідэйна-эстэтычныя змены ў канцэпцыі літаратурнага героя: ён стаў больш думаць, даследаваць і аналізаваць. Яго ўжо не стваралі на сто працэнтаў ідэальным — ён атрымаў магчымасць мець супярэчлівыя рысы. І тым самым стаў багацейшым і ўсё больш прываблівай чытача. Паглядзіце на творы таго часу, якія друкаваліся і ў «Маладосці», і ў «Полымі», і ў іншых нашых часопісах. Калі пры рэдактарстве Панчанкі «Маладосць» надрукавала аповесць Быкава «Мёртвым не баліць», гэта стала літаральна выбухам! А ўсё таму, што вайна паказвалася пісьменнікам не проста як бітва з супраціўнікам, захопнікам, ворагам, які сядзіць у акопе насупраць. Яна была паказана знутры. І праз гэта стала відаць, што далёка не ўсе яе ўдзельнікі з'яўляюцца героямі, што ў дасягненні перамогі задзейнічаны розныя, часам далёка не адназначныя сродкі, што былі на той вайне людзі розных маральных зместаў. Шмат пра гэту аповесць напісана, але прыемна згадаць, што першым яе надрукаваў менавіта часопіс «Маладосць». Таму што ўвогуле з Быкавым у нас дайшло да таго, што спачатку яго друкавалі маскоўскія часопісы — у перакладзе на рускую мову, а потым ужо нашы, па-беларуску. Гэта была ганебная з'ява, якая сведчыла пра нешта такое, што не павінна мець месца ў літаратурным працэсе.

**— Кажуць, Быкаў быў любімым аўтарам «Маладосці» і сам меў схільнасць друкавацца менавіта на яе старонках.**

— Тут была вельмі сімпатычная рэдакцыя. Я не хачу, канечне, сказаць, што ў «Полымі» Быкаву не спрыялі афіцыёз ці нешта іншае. «Полымем» тады кіраваў Максім Танк — таксама чалавек вельмі абаяльны і надзвычай прыхільны. Тым не менш атмасфера там была крыху іншая — калі не больш афіцыйная, то больш патрабавальная ў акадэмічным плане. Ну, а тут, у «Маладосці», звярталася ўвага на маладых.

**— Рэдакцыя першапачаткова размяшчалася ў будынку на Чырвонаармейскай, каля танка, дзе засядаў таксама ЦК камсамола. І якраз камсамол быў заснавальнікам часопіса. А не скажаце, чаму ўзнікла такая патрэба — стварыць яшчэ адзін беларускамоўны літаратурны часопіс, пры тым, што ўжо існавала «Полымя»?**

— У першую чаргу, гэта было звязана з павелічэннем колькаснага складу Саюза пісьменнікаў. З'явілася шмат новых імёнаў, якія таксама трэба было друкаваць, і адно «Полымя» з гэтым ужо не спраўлялася. А яшчэ — ведаеце што? У тыя гады існавала ідэалагічная ўпэўненасць, што можна выхаваць цалкам новага чалавека! Нават ставілася такая задача. А што, як не літаратура, мае здольнасць па-сапраўднаму выхаваць маральныя якасці і, скажам, густы? Яна, канечне, можа і псаваць іх, але гэта ўжо іншае пытанне. І вось камсамол як выхавальнік моладзі ўзяўся за гэту справу. Дарэчы, такія часопісы — для маладых — меліся ўжо на той час у Маскве. Памойму, ці не з гэтай мэтай пачала сваю выдавецца «Молодая гвардия». У Кіеве таксама ўжо выходзіў аналагічны часопіс — пад назвай «Дніпро». Ну, а ў нас узнікла «Маладосць». Спачатку тонкі, часопіс паступова ўвабраўся ў сілу, набыў аб'ём і займеў даволі шмат задач і абавязкаў: выхоўваць падрастаючую змену літаратараў, задавальняць попыт школы — вучняў, настаўнікаў, моладзі.

**— Вядома, што дачыненне да заснавання «Маладосці» меў Машэраў.**

— Так, Машэраў вельмі сябраваў з пісьменнікамі. Блізкім чалавекам у гэтым асяродку для яго быў Аркадзь Куляшоў. Машэраў, я так разумею, добра ўплываў на Куляшова. Але пры гэтым і сам прыслухоўваўся да слова і адчування свету паэта. Праўда, паэма «Цунамі» — гэта была ўжо другая палавіна 60-х, прыблізна 68-ы — Машэраву не спадабалася. Там, калі памятаеце, гэтакая рабінзанада: двое на далёкім востраве. Яны хацелі ўцячы ад цывілізацыі і зліцца з прыродай, але нічога не выйшла: іх і там напаткала небяспека ў выглядзе атамнага грыба — хтосьці на далёкіх астравах Бікіні выпрабоўваў новую зброю. Вось гэта думка: пра ўцёкі ад турбот веку, «рабінзанада» — Машэраву не спадабалася. Я думаю, што тут яму хацелася ўбачыць «класавы падыход», магчыма, больш «прынцыповы» позірк: мы, маўляў, моцныя і нічога такога не баімся, а вось героі «Цунамі» павялі сябе крыху інакш. Аўтар жа прыходзіць да думкі, што небяспечнага прытулку знайсці ўвогуле немагчыма. Машэраў пасля, можа быць, ужо не так часта сустракаўся з Куляшовым, але Куляшоў мог звярнуцца да Машэрава з нейкай просьбай.

## Нататкі рамантычнага маркетолага



Кацярына СІМАН

# Замалёўкі з горада N.

Пачынаючы новы матэрыял, я яшчэ не мела канчатковай ідэі, пра што мы з вамі сёння пагутарым. Але роздумы пра ўжо напісаныя ў гэтай калонцы радкі падштурхнулі да думкі: бібліятэкі! Мінулы раз мы якраз крыху закранулі гэтую тэму.

На жаль, на постсавецкай прасторы слова «бібліятэка» выклікае ў лепшым выпадку сумную ўсмешку. Традыцыйныя кнігасховішчы, якія ў большасці не маюць паўнавартаснай сучаснай матэрыяльна-тэхнічнай базы, нашы бібліятэкі ў масавай свядомасці сталі чымсьці накшталт гратэскна-камічных замалёвак з жыцця горада N.

Маё самае любімае выказванне нямецкіх калег: «Кнігі — гэта эмоцыі,ператвораныя ў рэчы. Памятайце ў першую чаргу пра гэта, а не пра прыбытак. Фінансавы бок з'яўляецца лагічным працягам вашага душэўнага стаўлення да кніг». У гэтым выказванні маецца на ўвазе кніжны гандаль, але сутнасць тая ж. Як доказ прапаную некалькі прыкладаў.

Ватыканская апостальская бібліятэка і Бадлійская бібліятэка Оксфардскага ўніверсітэта год таму абвясцілі пачатак сумеснага праекта. Яго сутнасць заключаецца ў тым, што гэтымі ўстановамі будзе алічбавана каля 1,5 мільёна старажытных тэкстаў. Потым доступ да дакументаў атрымаюць усе карыстальнікі сеціва. Мяркуецца, што поўная рэалізацыя праекта будзе завершана да 2016 года. Фінансавая падтрымка складзе 2 мільёны доляраў і будзе ажыццяўляцца брытанскім фондам *The Polonsky Foundation*.

Нью-Ёркская публічная бібліятэка не так даўно прапанавала новую ідэю-канцэпт з назвай *Underground Library*. У чым яе сутнасць? У вагонах метро размяшчаюцца віртуальныя міні-бібліятэкі, доступ да іх ажыццяўляецца з дапамогай бесправаднай высокачастотнай сувязі малога радыуса. З постара ў вагоне метро пасажыр скануе смартфонам код, які адкрывае бясплатны доступ да фрагментаў топ-бестселераў і класічных кніг. Гэтых 10 старонак дастаткова для «нажыўкі». Калі фрагмент заканчваецца, карыстальнік чытае паведамленне пра тое, што ў папяровым выглядзе гэтую кнігу можна прачытаць у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы.

Якія ж прычыны стварэння ўсіх гэтых праектаў? Малая колькасць наведвальнікаў, а таксама поўная адсутнасць у моладзі ўменняў працаваць у бібліятэцы. Праекты кшталту першай электроннай бібліятэкі «Гутэнберг» у пэўных адносінах выкараняюць звычайныя. Навошта кудысьці ехаць, калі ўсё можна знайсці і прачытаць, не выходзячы з дома?

Але пры гэтым у кніжным асяродку краін Захаду бібліятэкам адводзіцца асаблівая роля. Яны выступаюць у якасці прасторы для вучобы, працы, дзелавых сустрэч. Wi-Fi інтэрнэт з'яўляецца іх абавязковым атрыбутам. Ёсць некаторыя ўмовы «працы» ў такіх бібліятэках: некалькі абмежавальных правілаў паводзін і карыстання кнігамі. Тут, канечне, патрабуецца не толькі пэўны давер з боку бібліятэкараў, варта казаць і ў цэлым пра агульную культуру і стэрэатыпныя характарыстыкі соцыуму. І атрымліваецца, што ў заходніх бібліятэчных сістэмах у цэнтры ўвагі апынаецца не выжыванне і прыбытак-прыбытак, а прагрэс чалавекалюбства, імкненне дапамагчы людзям, а не атрымліваць ад іх дапамогу.

Шкада, неверагодна шкада нашай бібліятэчныя сістэмы. Тут працуюць цудоўныя людзі, якія шчыра любяць сваю справу. За паўтара года працы з імі я неаднаразова пераканалася ў гэтым. Але яны, на жаль, не могуць сабе дазволіць «раскошу» чалавекалюбства. Ім патрэбна менавіта выжыць, ажыццяўляючы паслугі па ксеракапіраванні, наборы тэксту, падборы літаратуры для дыпломных работ і сцэнарыяў свят. Карысна, не спрачаюся. Але давайце паспрабуем вярнуць ім душу, той самы палёт…

## Ініцыятывы

# Да месца, дзе нарадзіліся...

Мікола ЛАДЫМЕРАЎ

2017 год будзе пазначаны як год вялікага юбілею беларускага кнігадрукавання. У 1517-м — пачатак, вытокі, звязаныя з імем першадрукара і асветніка Францыска Скарыны, выход у свет першай друкаванай скарынаўскай кнігі. Так, Псалтыр выйшаў 6 жніўня 1517 года… За апошнія дзесяцігоддзі скарыназнаўства набыло самыя шырокія абсягі. Шырока адзначаліся юбілеі беларускага кнігадрукавання, юбілей самога Ф. Скарыны. Шмат зроблена дзеля мемарыялізацыі памяці слаўнага сына зямлі беларускай. У нашай дзяржаве існуюць узнагароды — медаль Ф. Скарыны і ордэн Ф. Скарыны. Несумненна, на высокім дзяржаўным узроўні, з шырокім удзелам грамадскасці будзе адзначана і 500-годдзе беларускага кнігадрукавання… Відавочна, свaё новае слова пра першадрукара і легендарнага асветніка скажуць паэты, празаікі, жывапісцы, графікі… Мо будуць перавыдадзены мастацкія і мастацка-публіцыстычныя даследаванні ранейшых дзесяцігоддзяў.

Але ж Францыска Скарыну шырэй павінен ведаць і свет. Чаму б не выдаць на мовах розных народаў адзін з невялікіх тэкстаў асветніка?.. Дарэчы, такую ідэю ўжо агучвалі лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь паэт Алесь Разанаў (яшчэ ў яго кнізе «Адраджэнне» — Мінск, 1970 год — змешчаны «скарынаўскі» верш «Радзіме»), паэт, публіцыст і перакладчык Сяргей Панізнік (яго паэтычная далучанасць да вобраза Скарыны — з першых вершаваных зборнікаў «Кастры Купалля» і «Палявая пошта») і іншыя творцы. У 1982 і 1983 гадах была выдадзена укладзеная В. Рагойшам і Я. Раманоўскай кніга Янкі Купалы «А хто там ідзе?: На мовах свету», дзе разам было сабрана больш як 80 перакладаў славутага купалаўскага верша, напісанага ў 1905 — 1907 гг. У тым ліку — і пераклад на рускую мову Максіма Горкага (упершыню надрукаваны ў 1911 годзе ў альманаху «Современный мир»). Як прыклад можна згадаць кнігу Тараса Шаўчэнкі «"Заповіт" мовамі народів світу» (Кіеў, 1989 год), у якой змешчаны пераклады праграмнага верша Вялікага Кабзара на 147 (!) моў. Беларускі пераклад належыць Янку Купалу — «Запаведзь»:

*Як памру я, пахавайце*
*На Ўкраіне мілай,*
*Сярод стэпу на кургане,*
*Дзе продкаў магіла:*
*Каб нязмераное поле,*
*Дняпро і абрывы*
*Было відна — было чутна,*
*Як раве бурлівы!*

У Туркменістане яшчэ ў сярэдзіне 1980-х выдалі невялікую кніжачку Махтумкулі «Лёс туркмена» на мовах народаў СССР. Дарэчы, беларускі пераклад гэтага верша зрабіў Уладзімір Караткевіч.

Які ж тэкст Францыска Скарыны прапануецца да перакладу?.. Вось як ён гучыць на сучаснай беларускай мове:



*Як звяры,*
*што блукаюць у пушчы,*
*ад нараджэння*
*ведаюць сховы свае,*
*як птушкі, што лётаюць у паветры,*
*помняць*
*гнёзды свае,*
*як рыбы,*
*што плаваюць у моры і ў рэках,*
*чуюць*
*віры свае*
*і як пчолы*
*бароняць вуллі свае —*
*гэтак і людзі,*
*да месца, дзе нарадзіліся*
*і ўзгадаваны ў Бозе,*
*вялікую ласку маюць.*

Тэма Радзімы, суладдзя і згоды, адвечнай паяднанасці з роднай старонкай, пачуццё адказнасці і асэнсаванне абавязку перад бацькоўскім краем — вось галоўны лейтматыў выказанага першадрукаром і асветнікам. Куды б цябе, чалавеча, не закінуў лёс, памятай, што ёсць тая мясціна, куды ты ці наяве ці ў думках павінен вярнуцца. Яна, родная старонка, — яшчэ і сімвал еднасці з блізкімі людзьмі, суаднесіны зробленага, здзейсненага ў жыцці з ацэнкай грамадою, землякамі.

І ў гэтых радках Скарына, відавочна, сугучны часу, актуальна-публіцыстычны.

Тэкст мае пераклады на рускую, англійскую, польскую (па-польску прачытаў, асэнсаваў скарынаўскія словы Анатоль Клышка), балгарскую мовы. Ужо ў апошнія паўтара-два года быў зварот да паэтаў розных краін перакласці радкі Францыска Скарыны на мовы іх народаў. Стасункам з перакладчыкамі, нягледзячы на ўсе складанасці, спрыяў і той факт, што пачынаючы з 2007 года Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Саюзам пісьменнікаў Беларусі і РВУ «Літаратура і Мастацтва» праводзіўся «круглы стол» па пытаннях міжнародных, міжнацыянальных літаратурных сувязей з удзелам замежных пісьменнікаў. За гады работы «круглага стала» ў Беларусь прыязджалі паэты і празаікі з Расіі (не толькі з Масквы, але і з рэгіёнаў — Татарстана, Удмурціі, Свярдлоўскай вобласці і іншых куточкаў), Таджыкістана, Азербайджана, Літвы, Польшчы, Сербіі, Босніі і Герцагавіны, Чарнагорыі, Казахстана, Украіны… Як вынік, дзякуючы іх дапамозе ці стасункам праз іх і з'явіліся пераклады Скарыны на іншыя мовы. На удмурцкую пераклаў Сяргей Мацвееў з Іжэўска. На таджыкскую — народны паэт Таджыкістана Саідалі Мамур. Дарэчы, у яго з Беларуссю повязь трывалая. Саідалі Мамур — аўтар цыкла вершаў пра Хатынь. На беларускую іх пераўвасобіў Мікола Аўрамчык. Саідалі Мамур пераклаў на таджыкскую мову зборнік вершаў Рыгора Барадуліна.

Да перакладу Скарыны спрычы-ніліся: на кітайскую — Гао Ман, на в'етнамскую Тхуі Таанг, на турк-менскую — Агагельды Аланазараў. Усе яны добра ведаюць беларускую літаратуру. В'етнамец Тхуі Таанг — і перакладчык верша «А хто там ідзе?». Адрасаваныя дзецям, двойчы выходзілі ў Мінску па-беларуску кнігі Агагельды Аланазарава. Нядаўна Віктар Гардзей пераклаў на беларускую мову яго «Вясёлую азбуку». Будзем спадзявацца, што і яна выйдзе кнігай. Гао Ман — перакладчык на кітайскую мову кнігі вершаў Максіма Танка (сумесна працаваў над перакладам зборніка яшчэ напрыканцы 1950-х гадоў з Гэ Баоцюанем).

Выключны па прыгажосці, адценнях усяе палітры слова здзейсніў пераклад на сербскую мову доктар філалагічных навук, знаны даследчык і глыбокі, чуйны мастацкі перакладчык Іван Чарота.

Уражлівую падтрымку ў зборы перакладаў скарынаўскіх вершаў аказаў літаратуразнаўца і пісьменнік з Махачкалы Марат Гаджыеў. Дзякуючы яго арганізацыйнай руплівасці удалося пазнаёміцца з дастаткова вядомымі паэтамі розных народаў Дагестана. У выніку атрыманы пераклады на аварскую (пераклала Тубхат Зургалава), агульскую (доктар філалагічных навук Замір Тарланаў), даргінскую (за гэта трэба быць удзячнымі даследчыцы даргінскага фальклору і перакладчыцы Аляксандра Блока Амінат Алімханавай), кумыкскую (аўтар перакладу — галоўны рэдактар кумыкскага дзіцячага часопіса Шэйіт-Ханум Алішава), лакскую (народны паэт Дагестана Сугуры Увайсаў), лязгінскую (рэдактар часопіса Саюза пісьменнікаў Дагестана «Самур» Зульфікар Кафланаў), нагайскую (Анварбек Култаеў), рутульскую (літаратуразнаўца і паэт Фаціма Ібрагімава), табасаранскую (Фіруза Султанава), цахурскую (Валеха Гамзата — паэт, перакладчык, добры знаўца англійскай, французскай моў).

Збіранне кнігі аднаго верша Францыска Скарыны на мовах свету працягваецца. Мажліва, хтосьці з перакладчыкаў, даследчыкаў сувязей беларускай літаратуры з літаратурамі іншых краін і падкажа нешта, і пэўны «скарынаўскі мост» з іншым светам наладзіць. Вось і пакуль пісаліся гэтыя радкі, прыйшлі ў Беларусь пераклады слова Скарыны на эстонскую (гэтую працу здзейсніў Арво Валтан) і мову комі (пераклаў Аляксей Папоў). А літоўскі пераклад даслаў з Вільні Вітаўтас Жэймантас.

Значыць, кніга збіраецца. Скарыны голас пачуе самы шырокі свет!

# Летапісец Магілёўшчыны



*Фрагмент выстаўкі.*

Пысінскія чытанні прайшлі ў Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна.

Імя Аляксея Пысіна цесна звязана з Магілёўскай абласной бібліятэкай. Ён неаднаразова браў удзел у літаратурных вечарынах і сустрэчах, дзе чытаў вершы, дзяліўся ўспамінамі і ўражаннямі. Працуючы журналістам «Магілёўскай праўды», адлюстроўваў значныя падзеі з жыцця бібліятэкі на старонках абласнога і рэспубліканскага друку.

У літаратурнай кампазіцыі, падрыхтаванай супрацоўнікамі бібліятэкі, прагучалі вершы Аляксея Пысіна, прысвечаныя Прыдняпроўскаму краю, малой радзіме — Краснаполлю, Магілёву, у якім жыў паэт і дзе ў поўную сілу праявілася майстэрства творцы. У гэтым горадзе Аляксей Пысін напісаў усе свае кнігі, а гэта больш як два дзясяткі (выключэнне — зборнік «Наш дзень»). Уласныя вершы ён нярэдка прысвячаў магіляўчанам: «Магілёўскія дзяўчаты», «Першамайская вуліца», «Магілёўская шаша», «Любуж», «Магілёўская гаворка», «Пячэрскі парк», «За палямі лугі і лясы…», «Краснаполле», «Магілёўскі шоўк», «Мой зялёны горад» і іншыя.

Упершыню госці і ўдзельнікі імпрэзы мелі магчымасць пачуць аўдыёзапісы вершаў паэта ў выкананні аўтара, а таксама заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Аляксандра Падабеда. Гэтыя запісы былі знойдзены ў фондзе Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь дзякуючы выніку пошукавай дзейнасці супрацоўнікаў бібліятэкі.

Да Пысінскіх чытанняў была падрыхтавана літаратурна-музычная кампазіцыя «Паэзія праўды і мужнасці», аснову якой складалі творы з юбілейных зборнікаў паэта: «Пойма» (1968), «Мерыдыяны» (1968); «Ёсць на свеце мой алень» (1978), «Яшчэ не скончана дарога» (1983), а таксама кніга вершаў «Твае далоні», за якую паэт быў удастоены звання лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР.

Віктар Арцем'еў, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, сябра паэта, расказаў пра захапленне А. Пысіна фальклорнай песняй, якую лічыў вяршыняй паэзіі. Уладзімір Дуктаў, старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, падзяліўся ўражаннямі пра апошні прыжыццёвы зборнік паэта «Ёсць на свеце мой алень», распавёў пра сустрэчы з Аляксеем Васільевічам.

Традыцыйна да Пысінскіх чытанняў бібліятэкай арганізуюцца разгорнутыя выстаўкі, прысвечаныя славутаму земляку. У гэтым годзе адбылася прэзентацыя інфармацыйна-ілюстрацыйнай выстаўкі-дыярамы «З будучым мінулае сшываю...», якую з упэўненасцю можна назваць летапісам жыццёвага і творчага шляху Аляксея Пысіна.


*Гучаць вершы Аляксея Пысіна.*

Кожны тэматычны раздзел прадстаўляе невялічкі аповед пра значныя падзеі з жыцця паэта: «Малая радзіма», «Вайна», «Сям'я», «Праца», «Творчасць».

Наведвальнікі выстаўкі маюць магчымасць даведацца пра сяброўскія і творчыя адносіны, якія звязвалі паэта з іншымі творцамі, як беларускімі, так і замежнымі. Бібліятэка паэта налічвае шмат кніг-дарункаў з аўтографамі ад сяброў-пісьменнікаў з розных краін.

**Юлія КАСЦЮК**

# Мастацтвазнаўца. Мастак. Паэт

Літаратурная гасцёўня «Сустрэча», што дзейнічае ў Пружанскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя М. Засіма, стала месцам правядзення імпрэзы з цыкла «Добры вечар, землякі». Гэтым разам чытачы сустрэліся з Аркадзем Дзенісевічам, мастаком, мастацтвазнаўцам, паэтам і выкладчыкам.

**Ніна ШАБУНЯ**

Творчыя здольнасці Аркадзя Дзенісевіча, ураджэнца пружанскай вёсці Вашчынічы, пачалі праяўляцца рана. У дзяцінстве рабіў копіі карцін вядомых мастакоў, пасля з'явіліся першыя аўтарскія працы.

Але толькі пасля 50-годдзя Аркадзь Мікалаевіч набыў вышэйшую мастацтвазнаўчую адукацыю.

Сёння А. Дзенісевіч — аўтар шматлікіх акварэляў і графічных работ, у якіх пераважае тэма старажытнай архітэктуры. Іх адрозніваюць тонкасць выканання, прыгажосць і гістарычная дакладнасць. У яго працах можна ўбачыць і памятныя мясціны Екацерынбурга, і старажытны Талін, і Рыгу, і казачны Суздаль. Шмат разоў Аркадзь Мікалаевіч перапісваў палатно «Родная хата», у выніку ў карціне ўсё трымціць, дыхае, поўніцца любоўю. Грэюць позірк і карціны «Пружанская вясна», «Ясельда», «Палескі край».

Да таго ж, Аркадзя Мікалаевіча ведаюць і як мастака-афарміцеля, дызайнера, майстра інтэр'ераў, які афармляў будынкі Брэсцкага аблвыканкама, Брэсцкай абласной бібліятэкі, дзіцячай бібліятэкі ў Іванаве, школьнага музея ў вёсцы Махро Іванаўскага раёна, ваенна-гістарычнага музея імя Д. Удовікава і музея «Бездзежскі фартушок» у Драгічынскім раёне.

Як мастацтвазнаўца ён захапляецца і не стамляецца даследаваць творчасць знакамітых мастакоў мінулых стагоддзяў. Вынікам гэтай працы сталі кнігі «Тэндэнцыі класіцызму і рамантызму Напалеона Орды», «Ю. І. Крашэўскі: этнаграфія, графіка, жывапіс».

Нельга не адзначыць і яшчэ адно захапленне гэтай творчай асобы: паэзію. Невялікі зборнік уласных вершаў «Скарбніца жыцця» Аркадзь Дзенісевіч перадаў бібліятэцы ў падарунак.

# Вершы над Бесяддзю

Касцюковіцкі край можна па праве лічыць літаратурным. Адсюль, з Прыбяседдзя, вядуць свой радавод Аркадзь Куляшоў, Іван Чыгрынаў, Аляксей Русецкі, Васіль Хомчанка, Леанід Левановіч. І, зразумела, Алесь Пісьмянкоў. Таму не дзіўна, што менавіта на Касцюкоўшчыне традыцыйна ладзіцца свята паэзіі і аўтарскай песні.

**Наталля ДРОБЫШАВА**

Вытокі свята трэба шукаць у 2002 годзе. На тым свяце, якое мела лірычную назву «Крыніцы душы», прысутнічаў Алесь Пісьмянкоў. Праз два гады творцы не стала. Каб захаваць светлую памяць пра паэта, такія сустрэчы сталі праводзіць штогод у дзень яго нараджэння. У 2007 годзе адбылося свята «Зорка, імя якой Алесь, збірае сяброў», прымеркаванае да 50-годдзя з дня нараджэння творцы. Праз год яно атрымала новую назву «Белы бусел над Бесяддзю». У 2009-м, калі адзначалася 95-годдзе з дня нараджэння А. Куляшова, у межах свята паэзіі загучала аўтарская песня. А ў 2011-м паэтычная сустрэча адбылася на беразе ракі Бесядзь, у вёсцы Бялынкавічы, насупраць дома, дзе прайшлі дзіцячыя гады Алеся Пісьмянкова. Гэтае жывапіснае месца жыхары вёскі называюць «Пісьмянковым лугам». Так свята атрымала сваю назву.

Летась «Пісьмянкоў луг» атрымаў статус Абласнога свята паэзіі і аўтарскай песні. Цяпер ідзе падрыхтоўка да чарговага мерапрыемства, якое пройдзе 24 — 25 мая. Яго маштаб ужо значна выходзіць за рамкі абласнога. З кожным годам расце колькасць і «геаграфічная карта» ўдзельнікаў. Сёлета на «Пісьмянковым лузе» збяруцца разам паэты і барды не толькі з прыбяседскага краю: у якасці ганаровых гасцей і ўдзельнікаў конкурсаў паэзіі і аўтарскай песні возьмуць удзел прадстаўнікі Бранскай вобласці Расіі, Мінскай, Віцебскай і Гомельскай абласцей.

Безумоўна, «Пісьмянкоў луг» набывае ўсё большую папулярнасць. І, магчыма, у хуткім часе шмат хто з гонарам будзе дэманстраваць дыплом пераможцы ўжо рэспубліканскага ці міжнароднага свята паэзіі і аўтарскай песні «Пісьмянкоў луг».

# Гэта наша зямля

Выдавецкая дзейнасць цэнтральнай раённай бібліятэкі пачалася ў 1997 годзе са зборнікаў мясцовых паэтаў М. Глуздова «Быць, жыць, любіць» і М. Малаткова «Тапаліная сляза». Але пазней акцэнт змясціўся ў бок краязнаўства. Значную дапамогу ў пошуку матэрыялаў аказалі мясцовыя краязнаўцы А. Галкоўскі, І. Чарнамораў, М. Дуктаў і іншыя. Складальнікам і рэдактарам зборнікаў была А. Сіліверстава.

**Таццяна ДАМЕНІКАН,**
**дырэктар Клімавіцкай бібліятэчнай сеткі**

Кніга «Зямля, дзе пачаўся мой лёс» сабрала гістарычныя, тапанімічныя даведкі, легенды і паданні пра паходжанне вёсак і іх назваў. Значнай падзеяй у жыцці бібліятэк раёна стала выданне кнігі «Жывая памяць Клімаўшчыны», прысвечанай гісторыі развіцця бібліятэчнай справы ў рэгіёне. У 2006 годзе выйшла другое, перапрацаванае і дапоўненае, выданне кнігі. З яе старонак можна даведацца пра любую бібліятэку раёна, яе супрацоўнікаў з моманту заснавання, атрымаць звесткі пра колькасць чытачоў і стан кніжнага фонду ў розныя гады і г. д. Так, старэйшай кніжніцай раёна з'яўляецца цэнтральная, якая ў 2010-м адзначыла сваё 90-годдзе. Менавіта ў яе фондах значыцца самая старэйшая кніга — «Рэвізор» М. Гогаля, датаваны 1947 годам.

Каштоўным выданнем стаў біябібліяграфічны паказальнік «Гонар і слава зямлі Клімавіцкай», прысвечаны землякам — Героям Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы, дактарам навук, заслужаным настаўнікам, паэтам і пісьменнікам, якія ўнеслі свой уклад у развіццё навукі і культуры края.

Дыялектычны слоўнік «Як кажуць людзі…» змяшчае прыказкі, прымаўкі, трапныя выслоўі і параўнанні (амаль дзве тысячы выразаў!), якія ўжываюць жыхары вёсак Клімавіцкага раёна.

Дзякуючы намаганням многіх краязнаўцаў і пры фінансавай дапамозе раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя пабачыў свет «Геаграфічна-статыстычны слоўнік: Клімавіцкі раён». Ён аб'яднаў напрацоўкі цэнтральнай бібліятэкі, матэрыялы краязнаўца М. Дуктава і географа, дацэнта кафедры геаграфіі МДУ імя А. Куляшова І. Шарухі. Гэта першая спроба геаграфічна-статыстычнага апісання сучаснага Клімавіцкага раёна. У кнізе прыводзяцца апошнія статыстычныя дадзеныя па колькасці насельніцтва, даюцца апісанні 1580 геаграфічных аб'ектаў. Тут таксама змешчаны артыкулы па гісторыі, геаграфіі і сучасным эканамічным становішчы раёна.

У бібліятэчным краязнаўстве выразна прасочваецца кірунак работы, звязаны са зборам інфармацыі па гісторыі рэлігійных помнікаў. Так, у 2008 годзе з'явілася кніга «Далёкай мінуўшчыны сведкі сучасныя» — вынік пошукавай працы бібліятэкараў і краязнаўцаў. Гэта першая спроба апісаць архітэктурную спадчыну Клімавіцкага раёна. Не ўсе помнікі дажылі да нашага часу, але нават рэшткі мураваных і драўляных пабудоў прыцягваюць увагу турыстаў і мясцовых жыхароў.

Выданне «Гэта наша з табою зямля. Асмолавічы — 500 год» вызначае асноўныя гістарычныя этапы станаўлення і развіцця вёскі, прыводзіць тапанімічныя назвы паселішчаў, дае звесткі пра заслужаных землякоў.

Сабраны багаты матэрыял з фотаздымкамі пра мінулае і сучаснасць вёсак раёна, плануецца выданне зборніка «Жыві, мая вёска». Краязнаўчая і выдавецкая праца бібліятэк працягваецца.

# Вясна ў гонар аргана


*Арган-юбіляр Вялікай залі Беларускай дзяржаўнай філармоніі.*

«Мінская вясна» зноў збірае аматараў класічнай музыкі. Сёлетні цыкл канцэртаў, якія праходзяць з 9 красавіка па 6 мая, прысвечаны значнай даце: арган Вялікай залы Беларускай дзяржаўнай філармоніі святкуе 50-годдзе.

**Дзіяна КАРОЛЬ**

Арган чэшскай фірмы *Rieger-Kloss* упершыню загучаў у Канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі 3 мая 1963 года. Аўтарам праекта, кіраўніком мантажных работ, а таксама настройкі інструмента стаў Іржы Рэйнберг, выбітны саліст-арганіст, вядомы спецыяліст у вобласці арганабудавання, прафесар Пражскай музычнай акадэміі. Менавіта ён прадэманстраваў багатыя мастацкія і тэхнічныя магчымасці аргана ў складанай разнапланавай праграме падчас канцэртаў, якія мелі месца на працягу пяці вечароў і былі прысвечаны «інаўгурацыі» інструмента-волата. Так быў закладзены падмурак гісторыі аргана Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

Час ішоў, салісты змянялі адзін аднаго за пультам «караля музычных інструментаў», робячы істотны ўнёсак у развіццё беларускай арганнай культуры. Алег Янчанка, прадстаўнік рускай выканаўчай школы, выпускнік Маскоўскай кансерваторыі, стаў першым салістам-арганістам Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Менавіта ён адкрываў для беларускіх слухачоў велізарны, раней практычна не знаёмы свет еўрапейскай арганнай культуры. Канцэрты з творамі як старых майстроў, так і новых кампазітараў на той час з'яўляліся адной з галоўных адметнасцей сталіцы. Сам А. Янчанка не абмяжоўваўся толькі ігрой на інструменце — спрабаваў свае сілы як кампазітар у жанрах сімфоніі і канцэрта, камерна-інструментальнай і вакальна-харавой музыкі. Сувязь з Беларуссю не перарвалася нават калі маэстра з'ехаў у Маскву: у 1980-я гг. ён стаў ініцыятарам адкрыцця новых арганаў Полацкага Сафійскага сабора і касцёла св. Роха ў Мінску, працягваў актыўна ўдзельнічаць у музычным жыцці краіны.

Аляксандр Фісейскі стаў наступным майстрам, хто ў 1975 годзе прыняў пост саліста-арганіста. Малады выканаўца атрымаў вядомасць дзякуючы першаму ў Мінску канцэрту, прысвечанаму І. С. Баху. Да 300-годдзя з дня нараджэння вялікага кампазітара ён паспяхова правёў двухгадовы цыкл «Іаган Себасцьян Бах. Усе творы для аргана». Сярод дасягненняў А. Фісейскага — праграмы, у якіх гучала старажытная музыка Францыі, Германіі, Англіі, мінская прэм'ера «Арганнай сімфоніі» азербайджанскага кампазітара А. Мірзоева.

З 1983-га па сённяшні дзень салістам-арганістам Беларускай дзяржаўнай філармоніі з'яўляецца Канстанцін Шароў, выхаванец Беларускай і Латвійскай кансерваторый, уладальнік Гран-пры Міжнароднага фестывалю «Musica Sacra» ў Лодзі. Значнае месца ў яго рэпертуары належыць маштабным творам Букстэхудэ і Баха, рамантычным паэмам для аргана Франка і Рэгера, грандыёзным арганным сімфоніям французскіх майстроў.

— У Беларусі склалася асаблівая сітуацыя са слухачамі, — заўважае музыказнаўца, кандыдат мастацтвазнаўства, вядучая канцэртаў Вольга Савіцкая. — На Захадзе людзі ўспрымаюць музыку аргана як частку культу. У Мінску ж паступова вырасла свая публіка, для якой арганны канцэрт — сапраўднае свята творчасці, яны гатовыя сядзець гадзінамі і ўважліва слухаць складаныя праграмы. Наогул, наша сталіца — унікальны горад: менавіта тут у 70-я гады XIX ст. упершыню на тэрыторыі Расійскай імперыі было адчынена вучылішча, якое рыхтавала арганістаў. Сёння ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі існуе клас аргана, у нас растуць свае музыканты, кампазітары, якія хочуць і будуць развівацца, таксама прысутнічае свая арганная культура: мы ўпісваемся ў сусветны культурны працэс.

Зразумела, арган Вялікай залы Беларускай дзяржаўнай філармоніі не адзіны ў Беларусі. Дзеючых «каралёў музычных інструментаў» можна знайсці ў Віцебскай філармоніі, Полацкім Сафійскім саборы, у Фарным касцёле ў Гродне, у Брэсце, Пінску. Ёсць арган і амаль у кожным беларускім касцёле, аднак тут вялікая праблема: большая частка знаходзіцца ў вельмі занядбаным стане, бо патрэбны не толькі велізарныя грашовыя выдаткі на рамонт інструментаў, але і дагляд прафесійных майстроў, энтузіязм з боку гаспадароў, якія павінны выкарыстоўваць усе яго магчымасці.

Арган Вялікай залы Белдзяржфілармоніі на працягу сарака год даглядаў захавальнік Станіслаў Чарняўскі: клапаціўся пра яго, ведаў яго «хваробы» і «нораў», таямніцы і надзвычайныя гукавыя магчымасці. Сёння справу бацькі працягвае Генадзь Чарняўскі.

У 2005 г. адбылася рэканструкцыя інструмента, а з ёй пачалося і яго новае жыццё. Як распавёў дырэктар філармоніі Аляксандр Гарбар, С. Чарняўскі адрамантаваў арган за 13 млн., хаця патрабаваліся ўсе 225. Уласнаручна ён перагледзеў, пачысціў кожную трубачку. На сённяшні дзень інструмент зноў патрабуе аднаўлення. Пачаць вырашылі з пульта: стары займае вельмі шмат месца на сцэне і нярэдка замінае канцэртнай дзейнасці. Замяніць яго невялічкая сістэма фармату аркуша А4, якую можна будзе размясціць у любой кропцы залы, што тэхнічна значна спросціць правядзенне мерапрыемстваў. Гэта першая частка. Наступная, што датычыць менавіта механічнай, унутранай рэканструкцыі, пачнецца ў 3-м — 4-м квартале. Завяршэнне рамонту плануецца ў лістападзе.

Што да святочных мерапрыемстваў, прысвечаных юбілею, старт форуму «Мінская вясна-2013» быў дадзены сумесным гала-канцэртам беларускіх і рускіх арганістаў: К. Шарова, І. Алоўнікава, К. Пагарэлай, М. Воінавай. 13 красавіка пройдзе канцэрт ансамбля «Камерныя салісты Мінска» пад кіраўніцтвам дырыжора Д. Зубава пры ўдзеле нямецкага арганіста М. Цімана і скрыпача Д. Сінькоўскага. Сольны канцэрт І. Геферта будзе прапанаваны ўвазе гледачоў 17 красавіка. У праграме — І. С. Бах, Н. Брунс, К. Сен-Санс і інш. Упершыню цэлы канцэрт будзе прысвечаны выпускнікам і студэнтам акадэміі музыкі 23 красавіка. Выступяць арганісты В. Бандарэнка, В. Таборка, К. Мядзведзева, В. Падгайская, К. Нікалаева і іх настаўнік У. Неўдах. Яны выканаюць творы І. С. Баха, кампазітараў-рамантыкаў і беларускую музыку XXI ст. Завяршыцца фестываль 6 мая канцэртам, прымеркаваным да Сусветнага дня аргана. Фінальнае выступленне будзе прысвечана 850-годдзю Сабора Парыжскай Божай Маці. Заслужаны артыст Расіі А. Фісейскі выступіць з новай праграмай «Французскі сімфанічны арган». Прагучаць сачыненні С. Франка, Л. Бельмана, А. Месіяна, Луі В'ерна. Цыкл канцэртаў «Мінская вясна-2013» праходзіць пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі.

# Душа. Святло. Вобразы


*«На Вялікдзень», 2013.*

Персанальная выстаўка жывапісца Уладзіміра Кожуха «Святло душы», прымеркаваная да яго юбілею, прайшла ў мастацкай галерэі Інстытута тэалогіі БДУ. Мастак прадставіў увазе гледачоў больш як 30 палотнаў, створаных у розныя перыяды жыцця.

**Галіна ФАТЫХАВА**

Заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат прэміі прафсаюзаў Беларусі за серыю работ «Чарнобыля чорная быль», удзельнік вялікай колькасці міжнародных выставак, аўтар работ, якія знаходзяцца ў шматлікіх мастацкіх музеях і галерэях як Беларусі, так і замежжа, жывапісец У. Кожух працуе ў жанры сюжэтна-тэматычнай карціны і пейзажа, яго творчасці ўласцівыя кампазіцыйная завершанасць, метафарычнасць мыслення, філасафічнасць, абагуленасць вобразаў.

Шмат якія з твораў, прадстаўленых на выстаўцы «Святло душы», У. Кожух прысвяціў праваслаўным святам. Узяць, напрыклад, серыю кампазіцый «На Вялікдзень», «На Каляды», «На Троіцу»: кожны твор уражвае непаўторнасцю і ўнутраным адзінствам, кожнай карціне адпавядае свой колер, які, разам з тым, дапаўняе цыкл. Праз многія работы праходзіць выява будынка царквы з Драгічына — малой радзімы мастака. Сімфонія дабрыні, сардэчнасці і чысціні гучыць у «Чытанні малітвы»: цяжарная жанчына трымае ў руках малітоўнік, вочы яе заплюшчаныя, яна просіць Бога, каб усё было добра з яе дзіцёнкам. Мастак у гэтым творы выкарыстоўвае колер для ўзмацнення эмацыянальнага зместу палатна: каларыт напружаны, прасякнуты драматызмам, постаць пададзена ў экспрэсіўнай манеры — выканана ў светлых фарбах на фоне цёмнага неба ў зорках. Гэта карціна завяршае цыкл «Чарнобыльскі альбом», які У. Кожух распачаў у 1986 годзе: адразу ж пасля выбуху мастак з групай калег выправіўся на радзіму, каб адлюстраваць на палотнах убачанае. Атрымаліся моцныя па сюжэце і прафесійным выкананні творы. Асабліва на выстаўцы «Чарнобыльская трагедыя», што праходзіла ў Палацы мастацтва ў 1987 годзе, гледачоў уразіла карціна «Вар'ят», на якой паказана бездапаможнасць чалавека перад невядомай бядой. На яго твары — адбітак бяссілля, ён не жадае пакідаць родны кут, сваю зямлю і нібыта спрабуе разагнаць цёмныя атрутныя хмары. Экспрэсіўны вобраз вар'ята, яго адчай не забываюцца і па сённяшні дзень.

На выстаўцы «Святло душы» можна пабачыць творы, напоўненыя шматлікімі вобразамі-абагульненнямі. Напрыклад, могілкі ля Кургана Славы, адлюстраваныя на карціне «Дзень памяці», сімвалізуюць мінулае народа. Курган Славы фігуруе тут як вобраз даніны павагі ўсім, хто загінуў падчас Другой сусветнай вайны. У творах «Абмыванне», «Святая вада», «Купалле» і інш. У. Кожух звяртаецца да тэмы традыцыйных вераванняў, прыгажосць беларускіх краявідаў адлюстроўваюць работы «Цішыня», «Поле», «Вечар».

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў
Наклад — 2728
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 11.04.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1614
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686